# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

12+

25 мая 2018 года №21 (1204)


# Каб дзеці вучыліся ў гімназіі, некаторыя бацькі шукаюць прапіску

старонка 2

Фота з архіва "РГ".


Крупная транспортная компания в связи с увеличением автопарка приглашает

**водителей-международников**

**категории «СЕ» с опытом работы от 2-х лет.**

*Официальное трудоустройство, справедливое отношение руководства, оптимальные условия труда и социальных компенсаций.*

BELGRUZ **г. Минск, ул. Бабушкина, 33-113**

Тел. (8-017) **380-00-92**

ООО «ТЭП «Белгрузавтотранс» УНП 100823427

**Спилим дерево**

*любой сложности,в любую погоду*

• Дробление пней

• Зачистка участков

ИП Павлов А.Л. УНП 791039759

(8-044) **538-53-91** Велком, (8-029) **578-72-08** МТС

АЛМИ сеть магазинов

**Сеть магазинов «АЛМИ» приглашает на работу:**

- **КОНТРОЛЁРА-КАССИРА** — Молодечно, ул. В. Гостинец,136, тел. (8-029) **667-88-69**
- **МАСТЕРА ЦЕХА**
- **ПОВАРА**
- **ОБВАЛЬЩИКА МЯСА**

Молодечно, ул. В. Гостинец,136, тел. (8-044) **547-04-18**

Отдел персонала: (8-017) **308-16-02**, (8-029) **103-19-48**, (8-029) **198-13-80** ЗАО «Юнифуд» УНП 800016624

Золотая мечта ювелирная сеть

**В магазинах г. Молодечно "Золотая мечта"- АКЦИЯ!**

***весь май "Свадебный переполох"***

при покупке **ОБРУЧАЛЬНЫХ КОЛЕЦ** СКИДКА до **50%**

**ЗОЛОТО И СЕРЕБРО** СКИДКА до **60%**

Рассрочка и кредит (кол-во ограничено)

ул. Притыцкого, 25 (возле Универмага), тел.(80176) **770-055**

и ул.Волынца, 7 (возле ателье "Берёзка"), тел. (80176) **777-923**

ООО «Залант Групп» УНП 192033734

МОЛОДЕЧНОМЕБЕЛЬ ЗАКРЫТОЕ АКЦИОНЕРНОЕ ОБЩЕСТВО

**ЗАО «Молодечномебель»**

**распродаёт образцы по сниженным ценам**

Количество изделий ограничено.

**Приглашаем за покупками**

в магазины г. Молодечно по адресам:

***ул. Металлистов, 1***

Тел. (8-0176) **77-61-76**

и ***ул. Либаво-Роменская, 83а***

Тел. (8-0176) **74-65-62**

Тел. Велком (8-044) **708-51-81**, МТС (8-033) **665-18-81**

УНП 600020369

**Полная комплектация кровли**

Металлочерепица, водосточная система элементы отделки кровли,

**Профнастил, металлоштакет для забора**

✔ Широкая гамма цветов

✔ Быстрое выполнение заказа

✔ Низкие цены

✔ Профессионалы своего дела,

✔ 20 лет на рынке

VERTRAGIA ВЕРТРАГИЯ

ЗАО «Вертрагия» УНП 101158209

Производство и склад: *г. Молодечно, ул. Мичурина, 31*

**Внимание! Акция!** Возможна отсрочка платежа до 3-х месяцев!

Тел. (8-0176) **73-79-42**, **73-55-13** моб. (8-044) **777-61-80, 777-45-07, 777-32-70, 777-84-80**


ISSN 1991-7155

9 771991 715006 21


Филиалу «**Молодечненские электрические сети**» на постоянную работу требуется

**рамщик**

(3-5 разряд)

(8-0176) **726-520**, **726-485**

(8-029) **679-70-43**

УНП 100071593

**ПРИГЛАШАЕМ НА РАБОТУ**

в продовольственный магазин «ZAKRAMA» г. Вилейка

- **Заведующего магазином**
- **Продавца-кассира**

Сотрудникам:

- Достойный уровень заработной платы
- Официальное трудоустройство и расширенный соц. пакет
- Униформа
- Комфортные условия труда

Телефоны: (8-029) **198-13-80**, (8-044) **755-97-72**, (8-017) **308-16-02** УНП 192511791

**КУП «Сморгонский ЛМЗ»**

*(г. Сморгонь, ул. Гагарина, 51)*

**приглашает на работу:**

- Начальника технологического бюро
- Мастера участка в литейный цех
- Учеников заливщика металла
- Фрезеровщика
- Слесаря КИП и А
- Энергетика
- Бухгалтера по заработной плате (знание 1С: Бухгалтерия)

УНП 500133809

Справки по тел. (8-01592) **310-64, 317-63, 321-28, 312-63**

## Хто перамог у акцыі "Дзясятачка"

**По ўмовах акцыі той, хто даслаў найбольш бланкаў з адзнакамі "9" і "10", атрымае планшэт.**

Найбольшую колькасць, а менавіта 57 бланкаў, мы атрымалі ад вучня 7 "В" класа гімназіі №10 Маладзечна **Захара Шалаева**. Віншуем Захара і яго клапатлівую маму, якая ўвесь год збірала бланкі і прынесла ў рэдакцыю за некалькі дзён да канца іх прыёму.

Захар атрымае планшэт.

Акрамя таго, ніхто не пабіў колькасць бланкаў і па заліку класа. Таму ўвесь 7 "В" пойдзе ў піцэрыю адзначаць канец навучальнага года.

Класны кіраўнік Захара **Алена Пятроўна** сказала, што Захар выдатнік і што нам даслалі яшчэ не ўсе яго дзясяткі. Уручаць падарунак пераможцы мы будзем у піцэрыі.

Таксама рэдакцыя адзначыць памятнымі падарункамі **Надзею Рухлю** з 11 класа Хажоўскай школы і **Дыяну Гіль** з 6 "А" вілейскай гімназіі "Логас". Дзяўчаты таксама актыўна ўдзельнічалі ў акцыі, але не дацягнулі да першага месца.

Пра ўзнагароджанне пераможцаў чытайце пазней.

Аддзел інфармацыі.

## Кнігі пісьменнікаў з Маладзечна і Вілейкі – у спісе на прэмію "Кніга года-2017"

ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА

Кнігі **Ніны Лісоты**, **Усевалада Сцебуракі**, **Андрэя Дзічэнкі** і **Барыса Манцэвіча** намінаваны на штогадовую літаратурную прэмію.

У спісе прадстаўленыя наступныя кнігі вяліячан: "Сны дарог" Усевалада Сцебуракі, "Ядро матери" Андрэя Дзічэнкі, "Скрыжалі майго маленства" Барыса Манцэвіча, а таксама "Дваццаць рэальных гісторый" Ніны Лісоты з Маладзечна.

На сайце таксама апублікаваны спіс сяброў журы, якія будуць галасаваць за найлепшую кнігу.

Прэмія прысуджаецца за найлепшую кнігу, выдадзеную ў 2017 годзе. На выбар кнігі-пераможцы можа паўплываць кожны сябар журы, па сутнасці, любы беларускі літаратар.

Пераможца атрымае прыз памерам 1000 еўра ў рублёвым эквіваленце паводле курсу Нацбанка.

Уручэнне прэміі адбудзецца ў другой палове мая.

Аксана ЯРАШОНАК.


## Разумней разам з "Рэгіянальнай газетай"



**Падпісацца на 2-е паўгоддзе можна:**

✓ праз сайт "Белпошты".

Зарэгіструйцеся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем "афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі", выбіраем "Алфавітны". Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Ціснем літару "Р", справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – "Рэгіянальная газета".

✓ на пошце,
✓ праз паштальёна
✓ праз плацежна-даведачны тэрмінал

Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 3 рублі 79 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 11 рублёў 22 капейкі.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

*ПАДПІСНЫ ІНДЭКС: 63212 (індывідуальная), 632122 (ведамасная падпіска).*


ТЭМА НУМАРА

# Каб дзеці вучыліся ў гімназіі, некаторыя бацькі шукаюць прапіску

**Змяненні ў правілах прыёму і навучання ў гімназіях выклікае занепакоенасць некаторых бацькоў. Пра тое, ці стане гэта праблемай, мы паразмаўлялі з бацькамі і педагогамі.**

Нагадаем, паводле Указа Прэзідэнта №30 ад 25 студзеня адменены экзамены ў 5 клас гімназій. Толькі ў гімназіях-каледжах засталася праверка творчых навыкаў. У звычайных школах і тых, што маюць статус гімназій, будуць аднолькавыя вучэбныя праграмы. У першы і пяты клас дзеці будуць паступаць па прапісцы. Мяркуецца, што раз няма розніцы ў праграмах, то і бацькам няважна, у якую школу пойдзе дзіця. Таму і будуць аддаваць у тую, што бліжэй па месцы прапіскі.

Маладзечанка **Вольга** з гэтым катэгарычна нязгодная. Сям'я жыве на Лясных, а дзяцей водзяць у адну з гімназій Маладзечна.

– Па-першае, я не хачу, каб дзіця вучыла іспанскую мову, якую прапануюць у 9 школе, якая дасталася нам па прапісцы, – расказвае жанчына. – Па-другое, хаця і кажуць, што праграмы аднолькавыя, але ўзровень настаўнікаў і выкладання розны. Гімназіі ўсё роўна мацнейшыя.

Вольга перажывае, што яе дзіця не трапіць у пяты клас гімназіі, у якую цяпер ходзіць. Адміністрацыя ўжо сказала, колькі дзяцей трапляе да іх па месцы прапіскі. Астатніх будуць прымаць па чарзе.

– Я ведаю, што ахвотных застацца больш, чым месцаў, і ў чаргу будзем станавіцца ледзь не ноччу. Бачыла, што мінчане даюць аб'явы, што прадаюць прапіску на тры месяцы – якраз, каб дзіця прынялі ў гімназію. Вось і я думаю, можа, мне прасцей перапрапісацца, каб дзіця дакладна трапіла ў тую школу, у якую я хачу?

### Магчыма, пойдуць тыя, хто пабаяўся б экзаменаў

Галоўны спецыяліст сектара дашкольнай, сярэдняй і сярэдняй спецыяльнай адукацыі Маладзечанскага райвыканкама **Аксана Агірчук** пракаментавала, што паступленне ў гімназіі штогод клапоціць бацькоў. І сёлета ў гэтым няма вялікіх змяненняў.

– Гімназіі прымаюць спачатку тых, хто ідзе па прапісцы. Застаюцца вакантныя месцы – іх займаюць па чарзе. Ужо ўсе гімназіі ведаюць, колькі ёсць вакантных месцаў. І штогод іх усе займаюць. Магчыма, сёлета ў гімназіі павядуць дзяцей тыя бацькі, якія б пабаяліся весці з экзаменамі.

Галоўны спецыяліст дадала, што некаторыя бацькі тэлефанавалі ў аддзел адукацыі і казалі, што збіраюцца перапрапісацца. Ці ісці на такі крок, аддзел адукацыі рэкамендаваць не можа, дадала яна.

### Смаргонь: у гімназію возьмем усіх ахвотных

У аддзеле адукацыі Смаргонскага райвыканкама дадатковых клопатаў з прапіскай няма:

– У нашым горадзе праблем з паступленнем у гімназію дакладна не будзе, – перакананы **Ігар Шчасны**, начальнік аддзела адукацыі, спорту і турызму Смаргонскага райвыканкама. – Напэўна, гэта праблема можа ўзнікнуць у вялікіх гарадах.

Па словах Ігара Пятровіча, ужо падлічылі дзяцей, што трапляюць у гімназію па прапісцы. Іх каля трыццаці. І не факт, кажа загадчык аддзела, што яны ўсе захочуць ісці ў гімназію. Таму вольных месцаў будзе дастаткова для ўсіх гараджан. З паступленнем у адзіную ў Смаргоні гімназію праблем не будзе.

### Дырэктар гімназіі №7: мы заўсёды працавалі па мікрараёне

**Тацццяна Радкевіч**, дырэктар маладзечанскай гімназіі №7, распавяла, што іх установа заўсёды, яшчэ да новаўвядзення, арыентавалася на дзяцей з мікрараёна школы.

– Калі прымаем дзяцей у гімназію, кіруемся ўсімі неабходнымі дакументамі, – расказала "Рэгіянальнай газеце" дырэктар. – Калі будуць вольныя месцы, бяром ахвотных па-за мікрараёнам.

Зоя ХРУЦКАЯ,
Аксана ЯРАШОНАК.

# Часу хапае на школу, сям'ю і пчол

**Дырэктар санаторнай школы-інтэрната атрымаў нагрудны знак "Выдатнік адукацыі"**

МАЛАДЗЕЧНА

**Днямі дырэктар Маладзечанскай санаторнай школы інтэрната Уладзімір Ляговіч (на фота) атрымаў узнагароду ад Міністэрства адукацыі.**



Ад 26 красавіка ён – "Выдатнік адукацыі". Высокую ўзнагароду ўручылі 18 мая.

Санаторную школу-інтэрнат Уладзімір Андрэевіч узначальвае 14 год. За гэты час тут дабудавалі аздараўленчы цэнтр, добраўпарадкавалі вялікую тэрыторыю. Для таго, каб паказаць мастацкія працы вучняў, адкрылі выставачную залу. Вучні перамагаюць у абласных і рэспубліканскіх конкурсах дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і вакальнага майстэрства.

Асабліва ганарыцца дырэктар тым, што за 14 гадоў яго кіравання вучні школы не здзейснілі ніводнага правапарушэння. Гэта ад таго, што дзеці занятыя, што ў школе ім цікава, перакананы дырэктар. У дапамогу яму – кваліфікаваныя педагогі, сярод якіх шмат моладзі. Да падбору кадраў кіраўнік падыходзіць адказна.

А пачаўся шлях педагога Уладзіміра Ляговіча на Смаргоншчыне, у вёсцы Войстам. Сюды маладога філолага і гісторыка накіравалі пасля Гродзенскага інстытута. У Войстаме папрацаваў пару год і стаў дырэктарам мясцовай школы.

На той час 24-гадовы дырэктар быў самы малады ва ўсёй Гродзенскай вобласці. Пазней працаваў намеснікам дырэктара ў маладзечанскай школе №3, у гарадскім аддзеле адукацыі Маладзечна. Восем год узначальваў яго.

Працу са школы дырэктар часта бярэ дамоў. Калі па вечарах з паперамі пасядзіць, калі – у выхадныя. Усё ж тры будынкі на ім, тэрыторыя, вялікі калектыў.

Аднак часу хапае і на школу, і на сям'ю, і на пчол, якімі займаецца больш за 20 год. Стараецца не адставаць ад часу: вывучыў камп'ютар, шмат карыстаецца ім у працы. А ў вольны час шмат чытае і глядзіць кіно.

– Узнагарода прыемная і хвалюючая, – падзяліўся Уладзімір Ляговіч. – Але я проста працаваў, атрымліваючы задавальненне, і не думаў пра вынік. А вынік якраз і атрымаўся.

УНП 600128662

# Падчас праверкі сельгаспрадпрыемстваў знайшлі амаль 300 моцна знясіленых кароў

**МАЛАДЗЕЧНА, ВІЛЕЙКА, МЯДЗЕЛ**

**Маладзечанскі міжраённы камітэт дзяржкантролю правёў маніторынг прадпрыемстваў "Стайкі" Вілейскага раёна, "Свір-агра" Мядзельскага і "Відзеўшчына" Маладзечанскага. Падчас праверкі знайшлі шэраг парушэнняў.**

Наяўнасць кармоў у зімова-стойлавы перыяд – адзін з асноўных складнікаў росту вытворчых паказчыкаў жывёлагадоўлі. У зімовы перыяд гэта аснова фінансавага дабрабыту арганізацый, таму што менавіта ад прадукцыі жывёлагадоўлі паступае асноўная выручка сельскагаспадарчых прадпрыемстваў зімой.

Правераныя арганізацыі не нарыхтавалі патрэбную колькасць кармоў. З-за гэтага павінны былі закупіць у іншых, што прывяло да дадатковых фінансавых страт на набыццё і дастаўку.

Вілейскія "Стайкі" ад 9 лютага да 11 красавіка закупілі кукурузны сілас і сянаж на суму больш за 100 тысяч рублёў, "Свір-агра" – 85 тысяч рублёў, "Відзеўшчына" – 149 тысяч рублёў.

Пры гэтым рацыён і час кармлення жывёлы не заўсёды вытрымліваліся. Гэта адбілася на атрыманай прадукцыі. За тры месяцы ў "Відзеўшчыне" вытворчасць малака знізілася на 23,6% да аналагічнага перыяду мінулага года, у "Свір-агра" – на 4%, у "Стайках" – на 37%. А сярэднясутачныя прывагі зменшыліся на 26,8 – 60% адпаведна.

На малочнатаварнай ферме "Мардасы" прадпрыемства "Стайкі" 11 красавіка было 292 каровы з прыкметамі моцнага знясілення.

Каб папярэдзіць падзеж пагалоўя, іх перадалі на іншыя фермы. Заўважылі недахоп жывой вагі больш чым на 21 тону. Гэта прыносіць шкоду "Стайкам" больш чым на 81 тысячу рублёў. Таксама дапушчанае скажэнне дадзеных дзяржаўнай статыстычнай справаздачнасці ў дакументах аб стане жывёлагадоўлі да студзень-сакавік.

Матэрыялы маніторынгу накіраваныя ў праваахоўныя органы.

**Паводле паведамлення Маладзечанскага міжраённага камітэта дзяржкантролю.**


Фота Sputnik Мацвеева.

**Каровам не хапала корму.**

## ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 16.05 | 2305 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 18,68 | 18,45 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 2,98 | 2,98 |
| Сасіскі "Малочныя", 1 кг | 6,98 | 6,67 |
| Свініна (вырэзка), 1 кг | 8,50 | 8,50 |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,10 | 4,10 |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | 5,50 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 12,00 | 13,50 |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,20 | 1,20 |
| Рыс, 0,8 кг | 1,50 | 1,50 |
| Алей "Залатая семачка", 1 л | 3,00 | 3,00 |
| Кава "Nescafe", 100 г | 5,20 | 5,20 |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | 2,15 |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 1,60 | 1,60 |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,90 | 1,90 |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,60 | 1,60 |
| Агуркі, 1 кг | 1,99 | 1,60 |
| Баклажаны, 1 кг | 6,90 | 6,45 |
| Бульба, 1 кг | 1,60 | 1,50 |
| Буракі, 1 кг | 1,80 | 1,70 |
| Капуста, 1 кг | 1,25 | 1,20 |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,20 | 2,20 |
| Морква, 1 кг | 1,10 | 1,30 |
| Памідоры, 1 кг | 3,50 | 3,40 |
| Перац, 1 кг | 7,99 | 8,30 |
| Радыс, 1 кг | 1,00 | 1,50 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,89 | 0,89 |
| Часнок, 1 кг | 4,50 | 4,50 |
| Шампіньёны, 1 кг | 6,00 | 5,50 |
| Абрыкосы, 1 кг | 5,90 | 6,30 |
| Апельсіны, 1 кг | 2,90 | 4,90 |
| Бананы, 1 кг | 2,39 | 1,99 |
| Вінаград, 1 кг | 5,70 | 5,90 |
| Гранаты, 1 кг | 7,00 | 7,00 |
| Грушы, 1 кг | 3,20 | 3,30 |
| Грэйпфруты, 1 кг | 3,00 | 3,20 |
| Кавун, 1 кг | 3,50 | 3,50 |
| Ківі, 1 кг | 3,95 | 3,95 |
| Клубніцы, 1 кг | 12,00 | 6,50 |
| Лімоны, 1 кг | 4,80 | 4,70 |
| Мандарыны, 1 кг | 3,95 | 3,75 |
| Яблыкі, 1 кг | 1,89 | 1,95 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,80 | 1,80 |
| Масла, 1 кг | 14,00 | 14,00 |
| Сала, 1 кг | 11,00 | 11,00 |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | 6,00 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 2,50 | 2,50 |

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 17.05 | 24.05 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2,0031 | 1,9972 |
| Еўра | 2,3704 | 2,3425 |
| Злоты, 10 | 5,5051 | 5,4380 |
| Расійскі рубель, 100 | 3,2122 | 3,2464 |
| Грыўня, 100 | 7,6367 | 7,6572 |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ"** | **16.05** | **23.05** |
| Еўра | 2.3500/2.3860 | 2.3330/2.3500 |
| Долар ЗША | 1.9950/2.0100 | 1.9860/2.0050 |

**ЛІЧБА НУМАРА**

**340,53**

сярэдні памер пенсій па ўзросце па краіне ў маі.

Паводле Міністэрства працы і сацабароны.

dour
N°30
11–15 ліпеня 2018

The Chemical Brothers (Вялікая Брытанія)/ Tyler, The Creator (ЗША)/ Mura Masa (Вялікая Брытанія)/ Ben Klock (Нямеччына)/ Black Sun Empire (Нідэрланды)/ Girls in Hawaii (Бельгія)/ Ho99o9 (ЗША)/ alt-J (Вялікая Брытанія)/ Joey Bada$$ (ЗША)/ Nils Frahm (Нямеччына)/ Paul Kalkbrenner (Нямеччына)/ ODESZA (ЗША)/ Jon Hopkins (Вялікая Брытанія)/ BADBADNOTGOOD (Канада)/ Yung Lean (Швецыя)

інфармацыя і квіткі
www.dourfestival.eu

GOGOGO! ASBL г. Дур, Бельгія

## ДАІ праводзіць мерапрыемства “Увага! Дзеці”

**Акцыя будзе доўжыцца ад 25 мая да 5 чэрвеня.**

У перыяд правядзення мерапрыемстваў на ўсіх механічных транспартных сродках пры руху ў светлы час сутак павінна быць уключанае бліжняе святло фар ці дзённыя ходавыя агні, калі яны ёсць.

**Трымайцеся правілаў бяспекі:**

- Заўсёды сачыце за дзецьмі, не пакідайце без нагляду ў дварах, дзе ёсць машыны.
- Калі едзеце на аўтамабілі з дзіцем, садзіце яго ў бусцер ці аўтакрэсла. Праверце, ці добра дзіця прышпіленае.
- Дзецям да 14 год не дазваляйце выязджаць на роварах на дарогі агульнага карыстання.
- Купіце дзіцяці флікеры ў розных выглядах – значкі, налепкі, кулончыкі і прымацуйце на адзенне.
- Не парушайце правілы дарожнага руху самі, давайце прыклад.

**Сяргей БАРТОШ, дзяржаўтаінспектар аддзела ДАІ Маладзечанскага РАУС.**

# Адной адрэзала ступню, другая – загінула

## Следчы і доктар распавялі падрабязнасці здарэнняў на чыгунцы

МАЛАДЗЕЧНА

**За мінулыя выхадныя на маладзечанскай чыгунцы адбыліся два здарэнні.**




Два здарэнні за адны выхадныя адбыліся на маладзечанскай чыгунцы.

Каля 20 гадзін у суботу, 19 мая, пад электрычку на станцыі Уша трапіла 24-гадовая жыхарка Мінскага раёна. Ёсць сведкі, якія сцвярджаюць, што дзяўчына падчас стаянкі цягніка сама палезла пад яго.

Дзяўчыну шпіталізавалі ў рэанімацыю. Па словах **Сяргея Сяляўкі**, намесніка начальніка аддзела маладзечанскага РАСК, электрацягнік адрэзаў ёй ступню. Цяпер пацярпелая знаходзіцца ў Маладзечанскай ЦРБ. Намеснік галоўнага доктара **Іван Лужынскі** расказаў “Рэгіянальнай газеце”, што сёння жыццё дзяўчыны па-за небяспекай.

Каля сямі раніцы 20 мая каля станцыі Алёхнавічы пад колы электрычкі “Маладзечна-Мінск” трапіла 42-гадовая мінчанка. Яна загінула.

Жанчына прыехала на лецішча з Мінска разам з сям’ёй. Пакуль родныя спалі, пайшла на чыгунку і лягла на рэйкі перад цягніком каля станцыі Алёхнавічы. Найбольш верагодная версія – самагубства.

Па словах Сяргея Сяляўкі, жанчына была ў стане дэпрэсіі. Нядаўна яе звольнілі з працы. Дзе працавала загінулая, следчым невядома.

**Аксана ЯРАШОНАК, Зоя ХРУЦКАЯ.**

УВАГА! ВЫШУК

## Шукаюць вяскоўца з Валожыншчыны, якога абвінавачваюць у злачынстве

ВАЛОЖЫН

Валожынскі РАСК шукае **Дзмітрыя Іванавіча Загорскага**, 1983 года нараджэння, ураджэнца вёскі Дайнава Вялікая. Яго абвінавачваюць па крымінальнай справе ў здзяйсненні наўмыснага злачынства (крадзяжу).



Прыкметы: на выгляд 35 год, рост 170-175 сантыметраў, сярэдняга целаскладу, з круглым бледным тварам, прамымі бровамі, шэра-блакітнымі вачыма, сярэднім носам і ротам, цёмнымі кароткімі валасамі. Мае глухі голас, гаворка ясная.

Грамадзян, якім вядома, дзе знаходзіцца Дзмітры Загорскі, просяць паведаміць у Валожынскі РАУС па тэлефонах: **8(01772) 54021** (дзяжурная часць), **8(029) 6855302, 8(029)5076698** або ў бліжэйшы аддзел міліцыі па тэлефоне **102**.

**Юлія СЕЛЯТЫЦКАЯ, Валожынскі РАСК.**

## У Баярах згубіўся жыхар Гродна

МАЛАДЗЕЧНА

Маладзечанскі райаддзел міліцыі шукае зніклага.

**Аляксандр Часлававіч Кучынскі** нарадзіўся 28.01 1983 года. Жыве ў Гродне.



Трэцяга мая пайшоў з вёскі Баяры ў невядомым накірунку, цяпер яго месцазнаходжанне невядомае.

Калі вы штосьці ведаеце пра зніклага, просім паведаміць у міліцыю па тэлефонах: **(80176) 74-96-83, 77-16-56, (8029) 546-40-44** ці **102.**

**Маладзечанскі райаддзел міліцыі.**

## Стала вядома, ад чаго памерла паўтарамесячная дзяўчынка ў Вілейцы

ВІЛЕЙКА

Пра смерць паўтарамесячнага дзіцяці “Рэгіянальная газета” пісала ў лютым.

25 лютага ноччу бацькі дзяўчынкі падышлі да ложка і заўважылі, што дачка не дыхае.

Па здарэнні праводзілі праверку.

Як расказаў “Рэгіянальнай газеце” начальнік вілейскага РАСК **Яўген Мягкоў**, па выніках судова-медыцынскай экспертызы стала вядома, што дзяўчынка была абсалютна здаровая і памерла ад сіндрому раптоўнай смерці, які часам здараецца ў немаўлят да года.

– У смерці дзіцяці няма ніякага крыміналу. І віноватых таксама няма, – падсумаваў Яўген Мягкоў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

**Даведка “РГ”.** Сіндром раптоўнай смерці нованароджаных – раптоўная смерць ад спынення дыхання знешне здаровага дзіцяці да аднаго года, пры якой ускрыццё не дазваляе ўстанавіць прычыну лятальнага зыходу. Часам такую смерць называюць “смерцю ў калысцы”, бо ніякія прыкметы ёй не папярэднічаюць. Часцей за ўсё, дзіця памірае ў сне.

## Аўтамабіль перакуліўся ў меліярацыйны канал: п’яны кіроўца патануў

ВІЛЕЙКА

Інцыдэнт адбыўся ўвечары 18 мая.

“Кампанія маладых людзей прыехала са сталіцы да Вілейскага вадасховішча, каб адзначыць 30-гадовы юбілей аднаго з сяброў. Адпачывальнікі прыехалі на машынах, размясціліся на беразе, разбілі намётавы лагер і сталі святкаваць”, – распавялі ў міліцыі.

У 05.40 імяніннік і яшчэ адзін мужчына, нягледзячы на тое, што нядаўна выпівалі, вырашылі пракаціцца на “Хондзе CR-V” па прасёлкавай дарозе. Каля вёскі Будзішча 30-гадовы кіроўца не справіўся з кіраваннем, машына з’ехала ў меліярацыйны канал і перакулілася на дах.

У выніку ДТЗ шкло задніх дзвярэй разбілася, салон аўтамабіля напоўніўся вадой. Пасажыр-імяніннік змог выбрацца з аўто праз заднія дзверы, а вось кіроўца – не.

Пра здарэнне ў міліцыю паведамілі ў 10:00. Цела кіроўцы з аўтамабіля даставалі выратавальнікі.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Юнак не дажыў да 20 год. Пасля аварыі ў Хажове загінуў кіроўца без правоў

МАЛАДЗЕЧНА

Здарэнне адбылося каля 21:30 у нядзелю, 20 мая.

19-гадовы кіроўца “Сітраэна”, які ніколі не меў правоў, ехаў з Маладзечна на Хоўхлава.

Едучы па Хажове, малады чалавек не справіўся з кіраваннем і ўехаў у жылы дом на вуліцы Савецкай.

Атрымаў цялесныя пашкоджанні і ў стане комы быў шпіталізаваны ў рэанімацыю.

Юнак не прыходзіў у сябе. Па словах дзяржаўтаінспектара Маладзечанскай ДАІ **Сяргея Бартоша**, ён пайшоў з жыцця 21 мая.

У аўтамабілі былі пасажыры. Паводле папярэдняй інфармацыі, яны не пацярпелі. Праводзіцца праверка.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

## Ад маланкі загарэўся хлеў у Лебедзеве

МАЛАДЗЕЧНА

17 мая ў пяць раніцы выратавальнікам паведамілі пра пажар у Лебедзеве.

Як распавяла мясцовая жыхарка, у пяць раніцы ўстала піць каву. На вуліцы была моцная навальніца.

Жанчына заўважыла, як маланка ўдарыла ў дах гаспадарчай пабудовы, што знаходзілася на суседнім участку.

Дах адразу загарэўся. Жанчына набрала 101 і пабегла будзіць суседзяў.

Дах згарэў цалкам, будынак выгараў знутры.

Маладзечанскі ГРАНС нагадвае, што самая вялікая небяспека падчас навальніцы – паражэнне маланкай.

**Калі навальніца заспела вас у памяшканні**, адключыце электрапрыборы, выцягніце штэкер антэны, спыніце тэлефонныя размовы; зачыніце вокны, дзверы, дымаходы; не сядзіце ля печы, каміна, металічных прадметаў; не прымайце ванну, душ, не мыйце посуд.

**Калі навальніца заспела вас на вуліцы**, зайдзіце ў любы будынак, не дакранайцеся да сцен, не знаходзьцеся паблізу ад правадоў, не карыстайцеся мабільнікам, не ездзіце на мапедзе, ровары, матацыкле, не бегайце.

**Калі навальніца заспела вас у машыне** – спыніцеся, не выходзьце, зачыніце вокны, апусціце антэну, не карыстайцеся мабільнікам.

**Калі падчас навальніцы** вы апынуліся ў лесе, трымайцеся далей ад высокіх дрэў, не стойце ля вогнішча. Схавайцеся пад нізкімі дрэвамі з густымі верхавінамі.

**Валянціна СОПАТ, Маладзечанскі ГРАНС.**

# Маладзечанскія электраманцёры – сярод лепшых у вобласці

МАЛАДЗЕЧНА

**Пераможцамі сёлетняга абласнога спаборніцтва "Лепшы па прафесіі" стала Стаўбцоўская каманда. Маладзечанцы занялі другое месца, мінчане – трэцяе.**




Каманда Маладзечанскіх электрасеткак заняла другое месца на абласным спаборніцтве.

Спаборніцтвы праводзілі на вучэбна-трэніровачным палігоне філіяла "Маладзечанскія электрасеткі" РУП "Мінскэнерга" 15, 16 і 17 мая. За перамогу змагаліся каманды з Маладзечна, Мінска, Стоўбцаў, Барысава і Слуцка.

Удзельнікам трэба было дакладна і хутка па чарзе выканаць шэсць этапаў. На кожным з іх спецыялісты павінны былі паказаць бездакорнае веданне і прытрымліванне інструкцыі, апаратыўную рэакцыю, а самае галоўнае – выдатнае ўменне працаваць у камандзе.

На першым этапе ўдзельнікі дэманстравалі веды правіл і інструкцый.

На другім спецыялісты вызвалялі пацярпелага ад дзеяння электрычнага току на металічнай анкернай апоры. Вядома, замест пацярпелага быў манекен. А вось усе астатнія ўмовы былі сапраўдныя. Электрыкам трэба было вызваліць "пацярпелага" з лініі электраперадач напружаннем 110 кВ. ЛЭП была ў зоне наведзенага напружання. А пасля патрабавалася паказаць, як электрыкі ўмеюць аказваць медыцынскую дапамогу.

**Пачаць рэанімацыйныя дзеянні для пацярпелага ад току трэба не пазней за чатыры хвіліны пасля ўздзеяння. За гэты час чалавека неабходна вызваліць ад дроту і спусціць на зямлю.**

Інакш атрыманыя пашкоджанні, адсутнасць кіслароду нанясуць непапраўную шкоду – чалавек не выжыве.

У трэцім этапе замянялі дэфектную дыстанцыйную распорку з выкарыстаннем каляскі, якая перамяшчаецца на правадах. На наступным этапе трэба было замяніць ізалятары ў падвесцы на прамежнай апоры з выкарыстаннем мантажнай лесвіцы і трапа.

У пятым этапе злучалі шлейф дрота анкернай металічнай апоры ВЛ 330 кВ, што знаходзілася пад наведзеным напружаннем. Выкарыстоўвалі грузапад'ёмны механізм і спіральны шлейфавы заціск.

Шосты этап правяраў укамплектаванасць брыгад і брыгадных аўтамабіляў у адпаведнасці з зацверджаным пералікам.

Этапы маладзечанцы пераадольвалі дакладна і хутка. Крыху падвяло хваляванне маладога электраманцёра на праверцы тэарэтычных ведаў. "Набярэмся досведу і выступім яшчэ лепш", – кажуць маладзечанцы.

У камандах удзельнічала па тры электраманцёры і майстар, кіраўнік брыгады. Маладзечанскія прафесіяналы прывезлі на працу грамату, а ў падарунак іх яшчэ чакае прэмія – па 35 базавых велічынь.

Конкурс "Лепшы па прафесіі" праводзяць для праверкі прафесійнага майстэрства работнікаў філіялаў. Спаборніцтвы для электрыкаў ладзяць раз на тры гады. У 2015 годзе перамагла маладзечанская каманда.

УНП 100071593



Ратуюць "пацярпелага" на другім этапе.



Трэці этап. На спецыяльнай калясцы электраманцёр рухаецца па правадах.



Перад выкананнем задання трэба праверыць кожны інструмент.



Выступае галоўны суддзя спаборніцтваў намеснік галоўнага інжынера РУП "Мінскэнерга" Юры Матыліцкі.



З вітальным словам выступіў дырэктар Маладзечанскіх электрасетак Сяргей Сарычаў.

# РОЗНАЕ

## ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

- Блокі газасілікатныя, цэгла, блокі некандыцыя. ІП Арлова В.Р. УНП 590976095. Т. (8-029) 1998898, (8-033) 6989980.*
- Вагонка, вольха, сасна. Дошкі для падлогі, блок-хаўс, імітацыя бруса, палок. ІП Жукоўскі З.А. УНП 692011094. Т. (8-029) 5090095, (8-029) 3811905.*
- Цэгла (кирпич) шамотная, віцебскі цэх №1. Т. (8-044) 7557072.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

- Бульбакапалка да трактароў Т-25, Т-40, трохі б/у. Т. Вэлком (8-044) 5543365.*
- Сельгастэхніка: касілка, граблі, прэс, плугі, акучнік, культыватар, дыскі, саджалка, бульбакапалка. Т. (8-029) 7531741.*
- Трактар МТЗ-80, МТЗ-82. Т. (8-029) 7531741.*
- Трактар Т-40, навясное, прычэп. Т. Вэлком (8-029) 1991382.*
- Трактар, 2017 г.в., рухавік 16 к.с., бензін, добры стан, 1900 руб. Т. (8-029) 5039360.*

**Бытавая тэхніка**

- Халадзільнік "Атлант". Т. (8-029) 3395974.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**


АНТЕННЫ СПУТНИКОВЫЕ
(8029) **762-78-98**
(8029) **332-67-79**
ИП Емельянов А.В. УНП 600361413


- Абаненцкія карты "Трыкалор" – скідкі! Акцыі! Антэны спадарожнікавыя – вялікі выбар, нізкія цэны. ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*
- Антэны спадарожнікавыя "Трыкалор", НТВ+, замена старых прыёмнікаў на новыя. ГПУП "Ліцэраль". УНП 690621436. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320.*

**Мэбля**

- Канапа, 2 крэслы б/у. Т. (8-033) 6635795.
- Канапа-ложак на спружыннай аснове, мяккі "Сальвадор-Дуэт", новы. Т. (8-044) 4132597.*
- Ложак 2-спальны. Т. МТС (8-029) 2506958.
- Тахта 0,85х2,05. Нядорага. Карнізы 2 м, 3 м. Т. (8-033) 6206381.

**Жывёла, птушка, пчолы**

- Вашчына ў Маладзечне. Т. (8-044) 5749372.
- Індычаняты БІГ-6 і кураняты: бройлерныя КОББ-500, нясушкі, цацаркі. Дастаўка.Т. МТС (8-033) 6908397, Велком (8-029) 6938397.*
- Вуллі новыя на 24 рамкі. Т. Вэлком (8-029) 9950326.*
- Парасяты пароды Ландрас. Т. (8-029) 3298854.
- Індык канвектар, 3-20 сутачные. Т. (8-029) 6577665.*

**Іншае**

- Батарэі чыгунныя, б/у, 40 і 60 см. Т. (8-029) 8789740.*
- Сена. Т. (8-029) 6870898.*
- Стальны газавы кацёл "Лемакс" серыі "Прэміум" 12,5В. Т. МТС (8-029) 7532645.*

**Бытавую тэхніку**

- Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

- **НОЎТБУК**, ЖК-тэлевізар, ЖК-манітор, сістэмны блок, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

- Кабана, свінню. Т. (8-033) 3401475.

**Іншае**

- 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*
- Інструмент, прыстасаванні і іншае для металаапрацоўкі. Т. (8-029) 7553763.*
- Кнігу "Памяць", розныя раёны. Т. (8-044) 7982430.*
- Рогі лася, аленя, любых памераў, можна з дэфектам альбо ў выглядзе вешалкі. Дорага! Забяру сам. Т. МТС (8-029) 5616569.*
- Рогі лася, аленя. Т. (8-029) 8552646.*

# ПРАЦА

## ПАТРАБУЕЦЦА

- Падсобны рабочы на сезон: бетон, земляныя работы. Т. (8-025) 7894666.
- Рамшчык (стужкавае і дыскавае пілаванне). Аплата здзельная. Т. (8-029) 6598871.

## ШУКАЮ РАБОТУ

- Шукаю падпрацоўку. Досвед: электрамантажныя работы. Будаўнічыя і аддзелачныя работы: афарбоўка, шпаклёўка, работы з гіпсакардонам, ламінат, вагонка і г.д. Т. Вэлком (8-029) 5526667.*


**На базу отдыха** возле Минска требуются:
**АДМИНИСТРАТОР**
(з/пл от 500 руб)
**УБОРЩИЦА**
(з/п от 400 руб)
*Вахта 7/7 суток. Жильё предоставляется.*
Тел. (8-017) **216-04-45**
ПО ООО «КАДМ» УНП 100647810


*Шукаем тых, хто нас любіць. Настолькі, каб разам працаваць*

**"Рэгіянальная газета" адкрывае вакансію**

**ЖУРНАЛІСТА**

Ад вас – адказнасць, працавітасць, смеласць і крэатыўнасць. У адказ ад нас атрымаеце годны заробак, душэўны калектыў і магчымасць прафесійнага росту.

Калі гэта тое, што трэба, дасылайце рэзюмэ на адрас regionnews@rh.by.


Сеть магазинов «Доброном» и дискаунтеров «Копеечка»
ПРИГЛАШАЕТ на постоянную работу в магазин по адресу: г. п. Чисть, ул. Заводская, д. 1А
ЗАО "Доброном" УНП 191178504
СТАРШЕГО КАССИРА з/п от 500 руб.
КОНТРОЛЕРОВ-КАССИРОВ з/п от 450 руб.
ПРОДАВЦА з/п от 400 руб.
УБОРЩИКА СЛУЖЕБНЫХ ПОМЕЩЕНИЙ з/п от 350 руб.
Мы предлагаем ВАМ: · стабильность компании и уверенность в завтрашнем дне · соц. пакет и высокую мотивацию труда · карьерный рост
Контактные телефоны: 8-044-738-35-48; 8-029-199-54-00



ТРЕБУЕТСЯ:
**Инженер-конструктор**
со знанием САПР
*SolidWorks приветствуется*
Тел. (8-029) **333-00-00**
ООО «Точка опоры» УНП 690387150



ТРЕБУЕТСЯ
**парикмахер**
в связи с большой загруженностью
*Хорошие условия*
*Соцпакет*
(8-029) **104-03-66** Лайф, **573-32-20**
ИП Володкевич О.Н. УНП 692012233



Строительному предприятию в г. Вилейка требуются
**маляры-штукатуры**
4-5 разряда, предпочтительно мужчины.
Срочно!
Тел. (8-029) **329-27-90**
ООО «Аналог-Строй» УНП 691396416



Островецкому филиалу Гродненского облпотребобщества срочно на постоянную работу требуются:
**Продавцы**
(с опытом работы)
**в магазинах г. Островец**
*Заработная плата от 800 руб.*
*Иногородним предоставляется общежитие.*
Обращаться по адресу:
***г. Островец, ул. Ленинская,12***
Тел. (8-01591) **215-84, 214-86**
УНП 590959404


**"Рэгіянальная газета"** шукае

**рэкламнага агента**

Заробак неабмежаваны і залежыць ад колькасці арганізаванай рэкламы. Калі вы камунікабельныя, умееце падтрымліваць гаворку, настойлівыя і адказныя, то дасылайце сваё рэзюмэ на адрас reklama@rh.by.


Требуется
**ВОДИТЕЛЬ-международник**
**категория «С» + «Е»**
*опыт работы по категории «Е» и международных перевозках от 1 года по маршруту: РБ – Литва – РБ*
Тел. (+375 1772) **54-223**
(8-029) **343-82-25**
УП «Белвоз» УНП 690244266



**ОАО «Шершуны-Агро»**
Минского района на постоянную работу ТРЕБУЮТСЯ:
☑ ГЛАВНЫЙ ИНЖЕНЕР
☑ БУХГАЛТЕР-ЭКОНОМИСТ
☑ ОПЕРАТОР по искусственному осеменению
☑ ТРАКТОРИСТЫ
☑ ВОДИТЕЛИ
☑ ЖИВОТНОВОДЫ
*Требования: опыт работы*
*Жильё предоставляется*
Телефоны для справок:
(8-029) **364-77-24**, **854-80-10**
УНП 690654548



Строительному предприятию в г. Вилейка требуется
**ГЛАВНЫЙ БУХГАЛТЕР**
с опытом работы в строительстве на должности главного бухгалтера не менее 3 лет.
Срочно!
Тел. (8-029) **329-27-90**
ООО «Аналог-Строй» УНП 691396416



**ПЛИТКА ТРОТУАРНАЯ БОРТ**
(8-029) **258-01-08**
(8-044) **744-21-24**
ИП Кубицкий Н.В. УНП 690050394



ИП Харчишин В.А. УНП 692014596
ИЗДЕЛИЯ ИЗ МЕТАЛЛА
Изготовление и монтаж
честные цены
КОЗЫРЬКИ, КАЛИТКИ, ЗАБОРЫ, ОГРАДКИ, СКАМЕЙКИ, МАНГАЛЫ
ОТКАТНЫЕ ВОРОТА
Велк.8 (029) 384 41 92
МТС 8 (033) 374 41 30



**СТРОИМ ДОМА И БАНИ ПОД КЛЮЧ**
**Внутренняя и наружная отделка**
- Сантехника
- Электрика
- Плитка
- Малярка
- Гипсокартон

Тел. (8-029) **676-26-88**, **836-26-88**
ЧТУП «ТрансКоДор» УНП 690696469



Установка Переустановка **ПАМЯТНИКОВ** и оградок
• Укладка плитки
• Заливка стяжек
Благоустройство мест захоронений
МТС +375 (29) **230-76-69**
ЧП "Гармония тепла" УНП 191561778



**Энергосберегающие окна из ПВХ**
**Ремонт окон любой сложности**
**Отделка откосов и лоджий**
- низкие цены , честные скидки
- рассрочка без банков и без %

тел. 8 029 **870 83 83**
тел. 8 044 **718 19 82**
ООО «ОКНОГРАД». УНП 690639306



ИП Шаблыко А.И. УНП 692018137
**Двери**
Межкомнатные
Металлические
КАЖДОМУ ПОЗВОНИВШЕМУ СКИДКА 10%
при заказе межкомнатных дверей скидка на фурнитуру 50%
РАССРОЧКА
без % и переплат
8029 351 17 69



**Окна ПВХ, откосы**
Жалюзи и рольшторы
Раздвижные БАЛКОННЫЕ РАМЫ
Москитные сетки, отливы, подоконники
Тел. (8-025) **927 34 49**, (8-029) **735 32 48**
e-mail: rokaka0725@mail.ru
ИП Каптюг Р.Н. УНП 691891452



**ДВЕРИ** входные, межкомнатные
металлические, распашные, складные, раздвижные
**АРКИ**
Тел. (8-025) **927 34 49**, (8-029) **735 32 48**
e-mail: rokaka0725@mail.ru
ИП Каптюг Р.Н. УНП 691891452



ИП Бураковский В.К. УНП 691518946
ОКНА ПВХ и ДВЕРИ за 3 ДНЯ
◦Замер ◦ Доставка ◦Установка
НИЗКИЕ цены
и рассрочка до 12 мес
8(029) 384 41 92 Велк
8(033) 374 41 30 МТС



**Выгодное предложение!**
**ОКНА ПВХ** всего за 20 рублей в месяц
- Балконные рамы
- Гаражные ворота
- Роллеты
- Откосы

*Беспроцентная рассрочка!*
ИП Шульжицкий О.В. УНП 691882990
+375 29 **1531037**,+375 33 **3633909**, т/факс 8 0176 **522 524**



**окна двери**
входные и межкомнатные
КОЗЫРКИ ЖАЛЮЗИ РОЛЬШТОРЫ
- Рассрочка без %
- ПОДАРКИ
- Гибкая система скидок 3-30%

Замер Доставка Установка
**dveri-ok@tut.by**
8-029-**662-23-83**
8-033-**662-23-83**
8-0176-**70-66-09**
ИП Платонов И.Н. УНП 692013467



**ОКНА ПВХ ДВЕРИ**
металлические межкомнатные
Большой выбор
Кредит. Рассрочка
*Хорошая цена за отличное качество*
Скидки до 30%
Велком (8-029) МТС (8-033) **690-3-222**
ИП Селицкий В.Т. УНП 691896176



**ОКНА ПВХ**
металлические, межкомнатные двери
ОКНОГРАД
**РАССРОЧКА до 12 месяцев СКИДКИ до 50%**
**Срок действия акции ограничен**
Тел. (8029) **110-63-91**, (8033) **351-68-39**
ООО "Окноград" УНП 690639306



Сеть магазинов «Доброном» и дискаунтеров «Копеечка»
ПРИГЛАШАЕТ на постоянную РАБОТУ в магазины города Молодечно
ДИРЕКТОРА МАГАЗИНА з/п от 1000 руб.
ЗАВЕДУЮЩИХ ОТДЕЛОМ з/п от 600 руб.
КОНТРОЛЕРОВ-КАССИРОВ з/п от 500 руб.
Мы предлагаем ВАМ: · стабильность компании и уверенность в завтрашнем дне · соц. пакет и высокую мотивацию труда · карьерный рост
Контактный телефон: 8-044-738-35-48
ЗАО "Доброном" УНП 191178504



Сеть магазинов «Доброном» и дискаунтеров «Копеечка»
ПРИГЛАШАЕТ на постоянную работу в магазин по адресу: г. Вилейка, ул. Георгиевская, д. 1Б
СТАРШИХ КОНТРОЛЕРОВ-КАССИРОВ з/п от 600 руб.
КОНТРОЛЕРОВ-КАССИРОВ з/п от 550 руб.
ПРОДАВЦА з/п от 450 руб.
Мы предлагаем ВАМ: · стабильность компании и уверенность в завтрашнем дне · соц. пакет и высокую мотивацию труда · карьерный рост
Контактные телефоны: 8-044-738-35-48; 8-044-739-36-66
ЗАО "Доброном" УНП 191178504

горки, спальни, прихожие, детские
Домотека
шкафы-купе, кухни и другое
готовая МЕБЕЛЬ на заказ
РАССРОЧКА 20 МЕСЯЦЕВ
Без первого взноса. Без справок.
ДВЕРИ
Входные стандарт и на заказ
Межкомнатные МДФ, экошпон, массив, купе и арки
ОКНА ПВХ
44-5140384 Velc
33-6415426 МТС
Доставка и замер бесплатно
ЧП "РантПлин" УНП 192583174

МЕТАЛЛОЧЕРЕПИЦА (РБ, РФ, Польша)
•Модульная металлочерепица, водостоки
•Профнастил, штакетник металлический
•Элитные окна ПВХ, мансардные окна
•Гаражные ворота и роллеты
•Метробонд, гибкая черепица
Рассрочка 0%
УНП 191301059
ООО "ВТ-Сити" www.vira.by (8-029)65-777-15 (8-017)348-13-78

СТРОИТЕЛЬНЫЕ МАТЕРИАЛЫ
☑ Рассрочка до 20 мес.
☑ Скидки до 50%
☑ Доставка
По оптовым ценам более 200 наименований: сайдинг, кровля, гипсокартон, утеплитель, блоки, кирпич, сухие смеси, заборы и др.
ИП Ринкевич Г. М. УНП 690639306 +37529-684-58-88, +37529-748-98-77

Жалюзи Рольшторы
Замер / Доставка / Установка
Тел. (8-029) 559-29-82, 359-29-82
ИП Платонов И.И. УНП 692013467

КУПЛЮ
коня, КРС и др.
а также вынужденный убой. Заберу личным транспортом.
Тел. (8-044) 777-44-48, (8-029) 393-92-56
ИП Жамойтин Д.В. УНП 590191739

• ТРУБЫ
• уголки
• швеллеры
• арматура
• листы
• сетка рабица
ИЗГОТОВЛЕНИЕ МЕТАЛЛОКОНСТРУКЦИЙ. РЕЗКА. Доставка
Аренда автокрана
г. Молодечно, ул. Рабочая, 8а
(0176) 50-56-53
58-04-76 (факс)
(029) 196-90-23 (-43) (-53)
www.metallkontrakt.by/
ООО «Молметаллконтракт» УНП 691398156

■ ПЕЧИ ДЛЯ БАНИ
■ БАКИ
■ ЕМКОСТИ для воды
ИЗ НЕРЖАВЕЮЩЕЙ СТАЛИ
АРГОННАЯ СВАРКА
www.svarimvse.by 8-044-743-59-27
ИП Нестерович УНП 691171264

Бурение скважин на воду
сайт www.burlexx.by
Тел. 8 029 128 78 78
ИП Янцевич А.Г. УНП 590945450

Натяжные потолки
Большой выбор тканей, цветов
Двухуровневые потолки (многоуровневые)
Большой выбор светильников и карнизов
Тел. (8-025) 927 34 49, (8-029) 735 32 48
e-mail: rokaka0725@mail.ru
ИП Каптюг Р.Н. УНП 691891452

МЕТАЛЛИЧЕСКИЕ ДВЕРИ
✓ Производство РБ
✓ Готовые и под заказ
✓ Улица, квартира
Рассрочка от 2 до 6 месяцев 0%
vasharamka.by
МТС (8-029) 558-46-59
Вел 647-53-20
ИП Лясковский Д.О. УНП 691555400

БУРЕНИЕ СКВАЖИН НА ВОДУ
• Высокое качество
• Договор • Гарантия.
Тел. (8-029) 133-65-74, 844-65-74.
ИП Гуринович А.В. УНП 691501462

БЕТОН
РАСТВОР
ОТ ПРОИЗВОДИТЕЛЯ
ПЕСОК, ЩЕБЕНЬ, ГРАВИЙ, ПГС
УСЛУГИ ПОГРУЗЧИКА (погрузочные работы, планировка, котлованы)
8-044-749-00-56
8-029-749-00-65
ООО «Алисан-Групп», УНП 690551451

ОАО «Нарочанские зори» реализует
поросят
по цене 11 рублей с НДС по предварительной записи
по тел. (8-029) 395-43-74, 874-68-41
УНП 600010876

МІЖНАРОДНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА: БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ


Фота OKRabota.DE

Нямецкая дакладнасць, ветлівасць і гасціннасць падкупляюць многіх падарожнікаў.

# Адпачынак у Германіі: за чым едуць да іх і куды з'язджаюць яны

**Адпачынак у Германіі: за чым едуць да іх і куды з'язджаюць яны**

У Германію едуць тыя, у каго на першым месцы выдатны сэрвіс, дагледжаныя не толькі атэлі, але і гарады, дарогі – усё, і гарантаваныя прыемныя ўражанні.

Калі вы ніколі не былі ў Германіі, пачніце з Берліна. Нават калі гэта толькі частка часу ў вашым падарожжы, аддайце яго гэтаму гораду. Тым больш, што менавіта Берлін – адно з самых зручных месцаў, куды можна прыбыць з Беларусі. Паглядзіце не толькі прывабныя турыстычныя месцы, удзяліце ўвагу і ўсходняй частцы горада, ды і проста месцам, не пазначаным у буклетах.

## Плюсы адпачынку ў Германіі

**Сэрвіс**

Вы будзеце абсалютна ўпэўненыя, што ў вашым нумары чыста, што ўсё дакладна, пра багаж нервавацца не трэба, а персанал ненавязлівы.

У якасці тавараў, якія вы набудзеце – ад кілбасы да сувеніраў, – сумнявацца таксама не варта.

**Кухня**

Для беларусаў нямецкая кухня не будзе вельмі экзатычнай. Яна даволі тлустая, таму многія каштуюць спіртныя напоі. Што ж, у адпачынку дазволіць сабе можна.

**Экскурсіі**

Вы можаце абраць вельмі розны адпачынак. На беразе неспякотнага Балтыйскага мора, у сельскай цішыні ці ў адным з буйных нямецкіх гарадоў.

Які б варыянт вы ні абралі, не адмаўляйце сабе ў экскурсіях. Прырода, славутасці, людзі – тое, што папоўніць вашу скарбонку ўражанняў і адкрые свет па-новаму.

**Цэны**

Канешне, прывезці штосьці з Германіі за кучу грошай можна, але неабавязкова. Калі не баяцца пашукаць варыянты, нямецкія цэны не будуць кусацца.

У двух суседніх магазінах сувеніры могуць прадавацца з розніцай у цане на парадак. А калі трапіць на распродажы, можна ўвогуле закупіцца рэчамі па вельмі выгадных цэнах.

За 10 еўра вы можаце сытна павячэраць у рэстаране.

**Утульнасць**

У Германіі клапоцяцца, каб інфраструктура была зручнай для ўсіх. Таму дзеці, сталыя людзі, людзі з інваліднасцю могуць быць спакойныя, што змогуць свабодна перамяшчацца. Ва ўсіх установах ім будуць рады і нідзе яны не адчуюць сябе нежаданымі гасцямі.

**Паездка на машыне**

Калі вы хацелі б падарожнічаць на машыне, дазвольце сабе праехаць па нямецкім аўтабане.

## Мінусы

**Мова**

Немцы ў большасці не ведаюць беларускую ці рускую мову, таму камунікаваць трэба па-нямецку ці па-англійску.

**Віза**

Так, для адпачынку ў Германіі спатрэбіцца віза.

**Паркоўка**

Калі вы ўсё ж спакусіліся нямецкім аўтабанам, улічыце, што паркоўкі ў Германіі амаль паўсюль платныя.

## Куды ездзяць адпачываць самі немцы

Жыхары Германіі пастаянна ў лідарах планеты сярод падарожнікаў. Па-першае, нямецкі пашпарт дазваляе ездзіць у шмат якія краіны без віз. Па-другое, адпачынак у немцаў звычайна 26-30 дзён.

Таму многія дзеляць яго на дзве часткі. Летам выбіраюцца на мора ці ў цікавую краіну, а зімой звычайна адпачываюць на гарналыжных курортах.

Найчасцей немцы ездзяць у Іспанію – краіна размешчаная недалёка, а клімат зусім іншы. Асабліва аблюбавалі Маёрку. Многія заможныя немцы маюць там нерухомасць, а студэнты ездзяць, каб падзарабіць.

Моладзь аддае перавагу больш клубнай Ібіцы.

Шмат хто абірае Турцыю, Італію, Францыю і Грэцыю.

Больш за палову адпачывальнікаў-немцаў арганізуюць адпачынак самастойна – абіраюць даты, рэйсы, маршруты. 74% жыхароў Германіі называюць мэтай адпачынку вывучэнне іншай краіны і яе культуры. Астатнія выбіраюцца, каб пабыць з сям'ёй ці сябрамі.

**Эмілія ХВОЯ.**



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.





**Гандляр Віктар прадае петуніі, лабеліі і не толькі.**

# Адчуйце красу лета, купіце сабе кветкі

**А каб яны радавалі вас і не абцяжарвалі клопатамі, мы распыталі пра тое, як выбіраць і даглядаць расліны, у тых, хто пабудаваў на іх бізнес.**

З маем рынак райспажыўтаварыства зусім мяняецца. Да самых халадоў тут будуць прапаноўваць прыгажосць – спачатку расаду і кусцікі, пасля свежыя кветкі. Каб адчуць колеры і пахі лета, без кветак ніяк. Менавіта яны, трапляючы нам на вочы ці абдаючы салодкім водарам, нагадваюць, што вось яно, дачакаліся. У той жа час хочацца, як мага менш корпацца ў іх і больш адпачываць.

Менавіта таму на базары прапануюць расліны, якія толькі перасадзі і крыху даглядай, ці гатовыя кашпо.

### Самыя папулярныя – петуніі

Петуніі цяпер самыя папулярныя кветкі на маладзечанскім базары. Белыя, ружовыя, чырвоныя, фіялетавыя і рознакаляровыя – гэта толькі некаторыя колеры, так што абраць кветкі ў тон ці ў кантраст інтэр'ера або экстэр'ера зможа любы маладзечанец ці госць горада.

Гандляры кажуць, што прывозяць некалькі відаў, а самі маюць па 30-40 у цяпліцах. Ёсць расада, што прызначаная для клумбаў, і тая, што падвешваецца ў кашпо. Кашпо з буйна разрослай петуніяй прадаюць па 10-15 рублёў. Расаду аддаюць ад 1,50 рубля. Прадаўцы абяцаюць, што праз тыдзень пасля перасадкі петунія моцна вымахае і будзе не горшай за тую, што адразу ў кашпо.

У цяпліцах петуніі пачынаюць вырошчваць са студзеня. У горад іх прывозяць мясцовыя ці госці, напрыклад, з Пінска.

Кветкі аднагадовыя, але, абяцаюць прадаўцы, цвісці будуць да першых маразоў.

### Што акрамя петуній

Бягоніі па два рублі можна высадзіць на градку ці ў хатні вазон. Кветкі не баяцца ні дажджу, ні сонца. Аксаміткі (бархатцы) па два рублі вырастаюць з буйной шапкай. За рубель прадаюць дэкаратыўную крапіўку, ці колеус.

За тры рублі прадаюць расаду шматгадовых гваздзікоў для агарода. Гандляр **Віктар** кажа, што ў добрых гаспадынь і з запраўленай глебай яны красуюцца да пяці год.

Куст дэкаратыўнай каліны прадаюць за 25 рублёў.

Калі хочацца зеляніны, а не кветак, можна абраць дэкаратыўнае дрэўца. Напрыклад, пушыстая елка стане вашай за 15 - 25 рублёў, у залежнасці ад вышыні. Яе можна пасадзіць у зямлю ці ў кадушку. Расце яна вельмі павольна, не больш за 2-3 сантыметры на год. Марозу не баіцца.

### Некалькі сакрэтаў па доглядзе

Па 15 рублёў прадаюць кашпо з лабеліяй. Дробныя кветачкі густа раскіданы на кусце. Гандляр Віктар расказвае, што лабеліі і петуніі лепш не паліваць, а ставіць у паддон з вадой. Зямля ўсмокча ваду, і капаць знізу нічога не будзе. Правяраць, ці трэба паліваць зноў, лёгка. Дакраніцеся да глебы – калі вільготная, значыць, вады хапае. Сухаватая – трэба паліць.

Калі петуніі добра разрастуцца, Віктар раіць крыху зрэзаць па кругу, і тады кветкі пойдуць з новай сілай. У гэты час можна даць адмысловую падкормку. Петуніі баяцца прамога сонца і дажджу. Таму лепш хаваць іх пад дах на ганку ці на балконе. Лабелія так дажджу не баіцца.

Акрамя петуній прадаюць фуксіі, сурфініі, бягоніі, вербену, лаванду, вяргіні і іншыя кветкі. Калі хочаце нейкую канкрэтную расліну – пытайцеся ў прадаўцоў. Хутчэй за ўсё, у кагосьці такая ёсць, проста сёння на базар не прывезлі.

Зоя ХРУЦКАЯ.


Тепличное хозяйство **Молодечненских электрических сетей** предлагает **широкий ассортимент посадочного материала**:

- ☑ Овощная рассада
- ☑ Однолетняя цветочная рассада
- ☑ Ампельные растения
- ☑ Многолетние растения
- ☑ Декоративно-лиственные растения
- ☑ Плодово-ягодные культуры
- ☑ Пряные и лекарственные растения

Наличный и безналичный расчет
Высокое качество продукции
Индивидуальный подход к каждому клиенту!

Магазин розничной торговли:
**г. Молодечно, ул. В. Гостинец, 67, к.8** (район ТЦ «Спутник»).
Тел./факс (8-0176) **72-64-16**, тел. (8-029) **377-15-24**
Сайт: www.cvetok-energo.simplesite.com e-mail: cvetok-energo@yandex.ru

УНП 100071593


# Пра пытанні рамесніцкай дзейнасці

**Рамесніцкую дзейнасць у Беларусі рэгулююць нормы Указа Прэзідэнта ад 9 снежня 2017 года №364 "Аб здзяйсненні фізічнымі асобамі рамесніцкай дзейнасці.**

У адпаведнасці з пунктам 1.5 пункта 1 указа фізічныя асобы, якія ажыццяўляюць рамесніцкую дзейнасць, маюць права рэалізоўваць выпрабленыя тавары на гандлёвых месцах, кірмашах і (або) у іншых месцах, устаноўленых мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі, у памяшканнях, якія выкарыстоўваюцца для іх вырабу, з прымяненнем рэкламы ў інтэрнэце, перасылаць поштай (у тым ліку міжнароднай), дастаўляць спажыўцу любым відам транспарту, а таксама на падставе грамадзянска-прававых дамоў, заключаных з юрыдычнымі асобамі і індывідуальнымі прадпрымальнікамі.

У адпаведнасці з артыкулам 1 Закона ад 2014/01/08 "Аб дзяржаўным рэгуляванні гандлю і грамадскага харчавання ў Рэспубліцы Беларусь" (далей – Закон аб гандлі):

Суб'ект гандлю – юрыдычная асоба, індывідуальны прадпрымальнік, якія ажыццяўляюць гандаль на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь (п. 31 арт. 1 Закона аб гандлі).

Пункт 3 арт. 19 Закона аб гандлі ўстанаўлівае, што суб'ект гандлю мае права ажыццяўляць рознічны гандаль з выкарыстаннем інтэрнэта толькі праз інтэрнэт-крамы, зарэгістраваныя ў Гандлёвым рэестры Рэспублікі Беларусь, і з выкарыстаннем даменнага імя, права на адміністраванне якога атрымана ёю на ўстаноўленым заканадаўствам парадку.

Улічваючы прыведзеныя вызначэнні, інтэрнэт-сайт рамесніка не можа лічыцца інтэрнэт-крамай.

Пры размяшчэнні рэкламы, з дапамогай якой будзе ажыццяўляцца рэалізацыя тавараў, рамеснікам варта ўлічваць патрабаванні Закона "Аб абароне правоў спажыўцоў" і Закона "Аб рэкламе".

У адпаведнасці з пунктамі 8, 9 артыкула 7, і пунктаў 1,3 артыкула 8 Закона аб абароне правоў спажыўцоў пры рэалізацыі тавараў праз рэкламу (у тым ліку інтэрнэт-рэкламу, незалежна ад таго, дзе яна размяшчаецца (распаўсюджваецца) – на ўласным сайце рамесніка, на інтэрнэт- старонцы груп або асабістай інтэрнэт-старонцы ў сацыяльных сетках або на сайтах іншых асоб) прадавец абавязаны ў гэтай рэкламе давадзіць да ведама спажыўцоў інфармацыю аб сваім прозвішчы, імя, імя па бацьку; найменні тавару; цане тавару; аб умовах захоўвання тавару, карыстання таварам, калі яны адрозніваюцца ад звычайных умоў захоўвання тавараў, карыстання таварамі або патрабуюць спецыяльных умоў захоўвання, карыстання; тэрміне дастаўкі тавару; цане і аб умовах аплаты дастаўкі тавару.

Адным са спосабаў рэалізацыі рамесных вырабаў, прадугледжаных Указам №364, з'яўляецца іх рэалізацыя ў памяшканнях, якія выкарыстоўваюцца для іх вырабу. Дадзеную норму варта разумець літаральна. Адпаведна, калі месцам вырабу рамеснай прадукцыі з'яўляецца кватэра, то яна ж можа з'яўляцца месцам для яе продажу.

Фізічныя асобы могуць ажыццяўляць рэалізацыю рамесных тавараў таксама на падставе грамадзянска-прававых дагавораў, якія заключаюцца паміж суб'ектамі гаспадарання і рамеснікамі ў адпаведнасці з нормамі Грамадзянскага кодэкса (далей – ГК). Продаж, перадача ў бязвыплатнае карыстанне, перадача на рэалізацыю тавару рамеснікам індывідуальнаму прадпрымальніку, калі гэта адна і тая ж асоба, якая не прадугледжвае пераход права ўласнасці і не адпавядае нормам ГК.

У выпадку ж, калі ажыццяўленне дзейнасці ў рамках норм Указа №364 абмяжоўвае магчымасці рамесніка, то ён мае права зарэгістравацца ў якасці юрасобы або індывідуальнага прадпрымальніка.

### Аб мерах па рэалізацыі Указа №345 ад 22 верасня 2017 года

У мэтах выканання пункта 4 Указа ад 22 верасня 2017 г. N45 "Аб развіцці гандлю, грамадскага харчавання і бытавога абслугоўвання" Мінскі абласны Савет дэпутатаў рашэнне №235 ад 2017/11/23 устанавіў:

пералік населеных пунктаў і тэрыторый за населенымі пунктамі, якія адносяцца да тэрыторыі сельскай мясцовасці, згодна з дадаткам 1;

пералік населеных пунктаў, якія адносяцца да тэрыторыі малых гарадскіх паселішчаў, згодна з дадаткам 2.

У дадзены пералік населеных пунктаў, у якіх могуць прымяняцца падатковыя льготы ў адпаведнасці з Указам №345 на тэрыторыі Мінскай вобласці, уключаны толькі населеныя пункты Барысаўскага і Пухавіцкага раёнаў. Такім чынам, толькі арганізацыі і індывідуальныя прадпрымальнікі, у якіх ёсць аб'екты гандлю, грамадскага харчавання і бытавога абслугоўвання ў населеных пунктах (уключаных у пералік) Барысаўскага і Пухавіцкага раёнаў, могуць прымяняць падатковыя льготы ў адпаведнасці з Указам №345.

Калі ёсць аб'екты гандлю, грамадскага харчавання і бытавога абслугоўвання ў населеных пунктах іншых галін Рэспублікі Беларусь, то для прымянення льгот трэба кіравацца пералікам населеных пунктаў (у якіх могуць прымяняцца льготы), зацверджаных рашэннямі абласных Саветаў дэпутатаў дадзеных абласцей.

**Інспекцыя МПЗ па Маладзечанскім раёне.**

# Хата з прывідамі і бясследна зніклы пахомаўскі абраз

## Што прываблівае ўфолагаў у вёскі Вілейшчыны

ВІЛЕЙКА

**Загадкавыя шаравыя маланкі, дзіўныя сны-прадказанні, абноўленыя абразы, хаты, у якіх ніхто не можа затрымацца больш, чым на адну ноч… Гучыць фантастычна?**

Усе гэтыя загадкавыя рэчы маюць месца на Вілейшчыне. Таму на пачатку мая сталічныя ўфолагі з каманды "Уфаком" правялі экспедыцыю ў раёне былых вёсак, што затапілі падчас будаўніцтва вадасховішча, а таксама пагутарылі з жыхарамі Вязыні і Суднікоў. Што прывабіла даследчыкаў невядомага і незвычайнага ў гэтыя мясціны?

– На Вілейшчыне мы ладзім экспедыцыі не першы раз. Мы – гэта каманда "Уфаком", – распавёў "Рэгіянальнай газеце" даследчык **Ілля Бутаў**. – Усе мы абсалютна розныя па прафесіях. Ёсць праграмісты, гісторыкі. Я – біёлаг.

Але, па словах Іллі, усіх сяброў каманды аб'ядноўвае цікавасць да гісторыі, краязнаўства і, асабліва, да загадак і невытлумачальных з'яў на Беларусі. Вывучаючы гэтыя з'явы, каманда шмат працуе з адпаведнай літаратурай, архівамі, дарэвалюцыйнымі беларускімі выданнямі, ужо некалькі год ладзіць канферэнцыю "Таемная Беларусь".

### А хто з вас бачыў шаравую маланку?

Вывучэнне газетных матэрыялаў за 1990-я гады ў свой час і прывяло даследчыкаў на Вілейшчыну. Неаднаразова траплялася інфармацыя, што ў вёсках Вілейскага раёна людзі сустракаюцца з шаравымі маланкамі. Гэта пацвердзілі і размовы з мясцовым насельніцтвам.

– Ці не кожны з жыхароў Суднікоў, Вязыні, Рэчак, якіх мы апытвалі, прыгадваў, што хоць раз у жыцці сустракаў шаравую маланку, – распавёў Ілля. – Мы сабралі дадзеныя пра сем такіх эпізодаў у ваколіцах Вілейскага вадасховішча, у вёсках Паняцічы, Суднікі, Баяры, Кавалі, Каўшэвічы, Рэчкі, на былым хутары Ялове.

У 1990-я нават, па словах майго субяседніка, пагаворвалі пра вілейскую анамальную зону з частымі шаравымі маланкамі і шарамі, якія свецяцца.

Падчас апошняй экспедыцыі даследчыкі ўпершыню ў сваёй практыцы запісалі сведчанне пра шаравую маланку чорнага колеру. Пра яе распавяла жыхарка вёскі Рэчкі.

### Пачулі пра камень-следавік, але не пабачылі яго

Не менш цікавая з'ява, на думку ўдзельнікаў экспедыцыі, – камяні з лункамі. На Вілейшчыне іх шмат. Тут гасцям са сталіцы дапамагаў мясцовы даследчык краязнаўца **Аляксандр Зайцаў**.

Падчас апошняй экспедыцыі пачулі пра камень-следавік, пра які пакуль нідзе не пісалі. Менавіта, пачулі. Бо пабачыць яго не атрымалася.

**По словах вяскоўцаў, камень ляжаў недалёка ад вёскі Суднікі. На ім былі лункі ў выглядзе дзіцячых ступняў.**

Вадой, што збіралася ў лунках, людзі лячыліся. Па словах сведкаў, той камень знішчаны.

### Нядобры дом і свастыка ў сне

Вілейшчына – куток багаты на фальклор праз звышнатуральнае. Падчас экспедыцыі дзве сталыя жанчыны з Рэчак распавялі пра дзіўныя прадбачанні перад Другой сусветнай вайной.

У 1939-м ля Суднікоў сустрэлі жанчыну, якая несла на плячы касу.

А яшчэ мясцовай жыхарцы прысніўся невядомы дагэтуль сімвал. Жанчына выразна ўбачыла яго, таму па памяці намалявала і паказала аднавяскоўцам. Але ніхто не ведаў, што ён абазначае. А была гэта... фашысцкая свастыка.

А яшчэ ў адной з вёсак Вілейшчыны ёсць дом, збудаваны з бярвенняў былой царквы. Па словах вяскоўцаў, жыць у ім немагчыма: па невядомых прычынах звініць посуд, з кутоў чуюцца незразумелыя гукі. А гаспадар ніяк не можа прадаць гэту спадчыну.

Цікавяць даследчыкаў і выпадкі абнаўлення абразоў. За час працы Ілля з паплечнікамі сабралі дзесяць такіх выпадкаў. Адзін з іх на Валожыншчыне, астатнія – у Вілейскім раёне. Адзін з выпадкаў, што здарыўся ўжо ў 2000-х, – абнаўленне абраза ў сям'і ў вёсцы Ясьманаўцы.



Фота забяспечанае Іллёй БУТАВЫМ.

Жанчыны ў Ясьманаўцах распавядаюць даследчыкам пра тое, як назіралі абнаўленне абразоў.



Фота забяспечанае Іллёй БУТАВЫМ.

Расповед пра абноўлены абраз.

### Дзе ж падзеўся пахомаўскі абраз?

Летась "Уфаком" зацікавіла яшчэ адна загадка, звязаная з Вілейскім краем. Ілля Бутаў у адным з архіваў знайшоў інфармацыю пра абраз з пахомаўскай царквы. З таго часу даследчыкі заклапочаны пытаннем: куды падзелася тая цудадзейная рэч. Само Пахомава затапілі ў 1970-х падчас будаўніцтва Вілейскага вадасховішча.

Доўгі час лічылі, што абраз з пахомаўскай царквы цяпер знаходзіцца ў вязынскай і называецца "Бічаванне Хрыста" і царквой Бічавання называлі храм у Пахомаве. Аднак дакументальнага пацвярджэння гэтаму даследчыкі не знайшлі.

– Згодна з паданнем, пахомаўскі абраз з'явіўся на сасне, – распавядае Ілля Бутаў. – А такім чынам з'яўляліся пераважна іконы Божай Маці, а не бічавання.

Сумненні "Уфакома" пацвярджаюць і мясцовыя жыхары з Суднікоў. Тут прыгадалі, што цудадзейная ікона ў Пахомаве была прысвечаная Божай Маці, а не Хрысту. Атрымліваецца, што ад 1975 года яе ніхто не бачыў. Тыя ж мясцовыя кажуць, што абраз у 1970-я гады прадалі кудысьці за мяжу. Ёсць дадзеныя, быццам яго набыў у Амерыцы нейкі **Аляксандр** з вёскі Баяры. Ёсць такія, што абраз увогуле згарэў. Некаторыя ж з мясцовых настойваюць на "Бічаванні". З'явіўся і трэці варыянт – быццам гэта абраз, прысвечаны Святому Мікалаю. Але ні пра адзін з іх дакументальных сведчанняў няма.

У даследчыкаў ёсць падставы меркаваць, што сапраўдны пахомаўскі абраз не знойдзены да сённяшняга дня і таму варта працягваць пошукі.

Ілля ведае, што сярод чытачоў газеты шмат аматараў краязнаўства, таму хацеў бы задаць ім пытанні. Па-першае, як выглядаў абраз? Хто і калі знайшоў абраз "Бічаванне Хрыста" і ўстанавіў, што ён з Пахомава? Дзе знаходзіўся абраз пасля 1975 года? Ці праўдзівыя звесткі, што нейкі час ён быў у латыгальскай царкве? Магчыма, у чытачоў захаваліся фотаздымкі з фэстаў, якія ладзіліся ў Пахомаве на Узвіжанне і Спас? На вядомых даследчыкам здымках, на жаль, царквы няма.

Як растлумачыць такія незвычайныя з'явы на Вілейшчыне? Што да абнаўлення ікон, то, па назіраннях даследчыкаў, з'ява часцей здараецца на нейкіх геаграфічных межах. Да 1939 года тут праходзіла мяжа паміж БССР і Заходняй Беларуссю. Але падчас адной з экспедыцый даследчыкі пабачылі абраз, што абнавіўся ў 2000-х.

Аматары незвычайнага заўважылі: чым больш цікавая мясцовасць у плане гісторыі, тым больш цудаў тут здараецца.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99
(працоўны)

# Два настаўнікі на паўсотні вучняў і суворыя пакаранні для нядбайных

## Як вучыліся ў Крэўскім народным вучылішчы

СМАРГОНЬ

**У сярэдзіне 19 стагоддзя па ўсёй Расійскай імперыі пашыраецца сетка пачатковых школ, у якіх выкладанне толькі самых элементарных ведаў: рускай і царкоўнаславянскай граматы, арыфметыкі, догмаў праваслаўя, царкоўных спеваў.**



У музеі Крэўскай школы захоўваюцца рэчы з народнага вучылішча: класны журнал, падручнікі, званок, пасведчанне аб заканчэнні навучання. Фота забяспечанае Аляксандрам Камінскім.

Вось і ў Крэве ў 1846 годзе заснавалі народнае вучылішча. На час яго адкрыцця тут было 70 вучняў і працавала два выкладчыкі. Матэрыяльная база была сціплай: 69 кніг і 35 прапісаў. Вучылішча месцілася ў грамадскім будынку і ўтрымлівалася за сродкі мясцовых жыхароў.

Нягледзячы на матэрыяльныя цяжкасці, настаўнікі ў тыя часы сумленна выконвалі свае прамые абавязкі. У розныя часы ў Крэўскім народным вучылішчы працавалі **Іван Чабан**, **Уладзімір Вайцяховіч**, **Іван Гайко**, **Дзмітры Траскоўскі**, **Фама Голуб**, **Іван Сіротка**. Вядома, што ўсе яны былі выпускнікамі Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі. Іван Сіротка, які нейкі час з'яўляўся дырэктарам вучылішча, апублікаваў у "Віленскім календары" на 1893 год краязнаўчы нарыс пра Крэва. Выкладчыкам Закона Божага быў у вучылішчы яшчэ адзін папулярызатар крэўскай даўніны – святар **Дамецій Плаўскі**.

### Чатыры класы месціліся ў адным пакоі

У 1886/87 навучальным годзе ў вучылішчы займаліся 50 хлопчыкаў і 3 дзяўчынкі. У 1900-м тут былі ўжо 103 хлопчыкі і 8 дзяўчынак, а з гадамі колькасць навучэнцаў расла.

Народнае вучылішча працавала ў Крэве да Першай сусветнай вайны. Акунуцца ў атмасферу, якая там панавала ў пачатку XX стагоддзя, нам дапамагаюць успаміны яго былога навучэнца **Пятра Грынкевіча**.

Ён прыгадвае, што будынак вучылішча стаяў на вуліцы Багданаўскай, на тым самым месцы, дзе пазней, пры Польшчы, была гмінная ўправа, а пасля Другой сусветнай вайны нейкі час тулілася амбулаторыя. Усе чатыры класы размяшчаліся ў адным вялікім пакоі.

За доўгімі партамі сядзела па шэсць-восем чалавек. На паўтары сотні вучняў было ўсяго двое настаўнікаў. Адзін з іх, па прозвішчы **Верамей**, быў адначасова дырэктарам. Ён выкладаў у трэцім і чацвертым класах.

У першым і другім класах урокі вяла маладая настаўніца па прозвішчы **Казак**. Акрамя іх, на Закон Божы прыходзілі праваслаўны святар **Цяжалоў**, ксяндзы **Радкевіч** і **Асціловіч**.

### Дзяўчынкі з праваслаўных сем'яў вучыліся асобна

Апроч крэўскіх, у вучылішчы займаліся дзеці з навакольных вёсак, нават такіх аддаленых, як Копцевічы. Па ўзросце вучні былі рознымі, некаторыя мелі па 17-19 гадоў. Колькасць дзяўчынак сярод навучэнцаў не дасягала нават дзесяці чалавек. Гэта былі каталічкі.

А для дзяўчынак з праваслаўных сем'яў прызначалася царкоўнапрыходская школа, адчыненая ў 1889 годзе пры Свята-Аляксандра-Неўскай царкве. У ёй заняткі праводзілі святар Дамецій Плаўскі, яго дачка і жонка, а пазней – настаўніца па прозвішчы **Пакладок**, дачка начальніка пошты. Па дадзеных 1898 года, у крэўскай царкоўнапрыходскай школе налічвалася 40 вучаніц.

Нягледзячы на складаныя ўмовы, дырэктару народнага вучылішча ўдавалася падтрымліваць у навучальнай установе парадак і дысцыпліну. Тут панавалі строгія норавы, нядбайных вучняў сурова каралі.

Акрамя вучобы, вялікую ўвагу надавалі тут і працоўнаму навучанню. Вучылішча мела свой сад, кветнік, агарод, пчальнік. Тэрыторыя ля вучылішча заўсёды была дагледжаная. Усю працу выконвалі вучні пад кіраўніцтвам настаўнікаў.

У канцы чацвертага года навучання праводзілі экзамены. На іх прыязджала камісія з Ашмянаў і са Смаргоні. Вучні, якія паспяхова спраўляліся з іспытамі, маглі працягваць вучобу ў гарадскіх вышэйшых пачатковых вучылішчах альбо ў Барунскай двухкласнай школе, з якой можна было паступіць у Маладзечанскую ці іншую настаўніцкую семінарыю. Некаторыя ішлі працаваць пісарамі ў валасную ўправу альбо на пошту.

Аляксандр **КАМІНСКІ**, Крэва.

## На падворку ў Будзішчы стаіць дуб з магічным мінулым

ВІЛЕЙКА

**На двары жыхаркі Будзішча Наталлі Дуровіч стаіць вялізны дуб.**

Нядаўна гаспадары памералі, колькі ён у абхваце. Атрымалася шэсць метраў. Птушкі на дубе стала не жывуць, гнёздаў там няма. Але прылятаюць часта: то дзяцел на дрэве абудзіць вёску стукам, то іншыя птушкі – сваімі спевамі.

Па словах гаспадыні старасты вёскі **Наталлі Дуровіч**, у Будзішчы ўвесь час лічылі, што дубу гадоў трыста. Але неяк прыязджалі прамысловыя альпіністы, каб ссекчы сук з іншага дуба, куды больш танейшага і маладзейшага, то сказалі, што трыста год гэтаму дрэву. А дуб, што шэсць метраў у абхваце, значна старэйшы.

– Дрэва мае нават магічную гісторыю, – падзялілася Наталля Дуровіч. – Некалькі стагоддзяў таму наш продак, якога звалі **Астап**, пасадзіў гэты дуб. У хуткім часе пайшоў варажыць да чарнакніжніцы. Тая наваражыла, што Астап памрэ, як толькі дуб перарасце яго.

Па словах Наталлі, далёкі продак усур'ёз успрыняў словы варажбіткі. Як толькі дуб пачынаў дарастаць да яго, Астап кожны раз абломліваў верхавіну.

Як пасля склалася жыццё Астапа, Дуровічы не ведаюць. Але звесткі пра продка і Будзішча шукаюць. Дайшлі нават да архіваў Санкт-Пецярбурга.

Аксана **ЯРАШОНАК**.



Фота Аксаны ЯРАШОНАК

Ураджэнцы Будзішча Сяргей Вайтовіч і Наталля Дуровіч каля дуба з гісторыяй.

## КАЛЯНДАР

### 25 МАЯ

**85 гадоў** з часу адкрыцця (1933) Беларускага дзяржаўнага тэатра оперы і балета. Створаны ў Мінску на базе Беларускай студыі оперы і балета. У 1940 годзе ўзнагароджаны ордэнам Леніна і названы Вялікім. У 1964 годзе яму нададзенае званне акадэмічнага. Ад 1994 – Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Рэспублікі Беларусь, ад 1996 года – Нацыянальны акадэмічны тэатр балета Рэспублікі Беларусь і Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы Рэспублікі Беларусь, цяпер Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Рэспублікі Беларусь.

**1938.** 80 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Карызны, беларускага паэта, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1996).

**1917.** Памёр **Максім Багдановіч**, паэт, перакладчык, крытык. Пахаваны на старых гарадскіх могілках у Ялце.

**1968.** 50 гадоў таму памёр генерал **Франц Кушаль**, вайсковец, дзеяч эміграцыі ў Германіі і ЗША, муж Наталлі Арсенневай. Нарадзіўся ў 1895 годзе ў вёсцы Пяршаі, цяпер Валожынскі раён.

### 27 МАЯ

**50 гадоў** з часу прыняцця (1968) пастановы Савета Міністраў БССР аб стварэнні Цэнтральнага дзяржаўнага архіва навукова-тэхнічнай дакументацыі (з 1993 года – Беларускі дзяржаўны архіў навукова-тэхнічнай дакументацыі).

### 28 МАЯ

**1863.** 155 гадоў назад у баі каля вёскі Уладыкі (цяпер Вілейскі раён) забіты **Вікенці Козел**, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гадоў. Пахаваны ў брацкай магіле (каля 70 чалавек), пазней перапахаваны на радзіме ў Сэрвачы. Нарадзіўся ў 1838 годзе. Ён загінуў, але да гэтага часу з пакаленне ў пакаленне перадаюцца яго апошнія словы: "Не мы, дык нашы косці здабудуць вольнасць".

### 30 МАЯ

**1999.** Трагедыя на "Нямізе", у выніку якой у падземным пераходзе станцыі мінскага метрапалітэна "Няміга" загінулі 53 чалавекі, пераважна юнакі і дзяўчаты.

### 31 МАЯ

**1948.** 70 гадоў з дня нараджэння **Святланы Алексіевіч**, беларускай пісьменніцы, лаўрэата Нобелеўскай прэміі па літаратуры.

**1800.** У Варшаве памёр **Міхал Казімір Агінскі**, дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага. Нарадзіўся ў 1728 або 1730 годзе.

Марыя **БЕРАСНЕВА**.



Наведнік Леанід Курц паказвае сыну, як выкарыстоўвалі самавар.



Партрэт 18-гадовай віляйчанкі ў майстэрні Бермана visеў як рэклама ў канцы 1920-х.




Вольга Коласава пачынае экскурсію.

# Як фатографа арыштавалі з-за аднаго партрэта і адкуль у горадзе назва "Перавалка"

## Пра што мы даведаліся на Ночы музеяў у Вілейцы

ВІЛЕЙКА

**Сваё прафесійнае свята – Дзень музеяў – супрацоўнікі Вілейскага краязнаўчага музея адсвяткавалі адкрыццём новай экспазіцыі "Вілейка: горад і яго жыхары", экскурсіяй, гульнёй "Цені мінулага" і чаяваннем у партызанскай зямлянцы.**

– Экспазіцыя "Дзве вайны – памяць адна" ў нас ужо некалькі год, – кажа дырэктар музея **Надзея Аўдзей**. – Большасць наведнікаў яе ўжо бачыла. Да таго ж хацелася паказаць нашы багатыя фонды.

### Зазірнуць у фотамайстэрню Беркі Бермана

Новая экспазіцыя складаецца з некалькіх тэматычных частак. У адной прадстаўляюць першае прамысловае прадпрыемства ў Вілейцы, заснаванае панам **Аляксандрам Любанскім**, у другой – раку Вілію. Наведнікі пабачылі фотаздымкі вілейскага фатографа **Беркі Бермана** і яго імправізаваную фотамайстэрню, уявілі, як выглядаў інтэр'ер кватэр за польскім часам, больш даведаліся пра завод "Зеніт".

– Як выглядаў наш горад і яго жыхары, што жылі да нас, дапамагаюць уявіць старыя фотаздымкі, – адзначыла старшы навуковы супрацоўнік **Вольга Коласава**. – Таму ў экспазіцыі здымкаў шмат. Гэтых людзей даўно няма, але яны з намі дзякуючы фотаздымкам.

Больш за тое, фатаграфаванню прысвечаная адна з частак экспазіцыі. У ёй – "фотамайстэрня" вілейскага фатографа Беркі Бермана з усімі неабходнымі прыладамі, арыгіналы здымкаў фатографа побач з паявлічанымі копіямі.

– Берман быў адзіным фатографам у Вілейцы ў 1920-30-х, – расказала Надзея. – Таму сёння ў альбомах віляйчан-старажылаў часта сустракаюцца менавіта яго фотаздымкі. У экспазіцыі ёсць фота з альбома жыхароў горада – сям'і **Курыловічаў**. Ёсць здымкі дзяўчыны, асабліва ўдалыя. Таму яны віселі ў майстэрні фатографа ў якасці рэкламы. Першы зроблены ў 1927 годзе. Дзяўчынка тут яшчэ школьніца, пра што сведчыць школьны каўнерык. На другім фотаздымку – ёй 18.

Як і сённяшнія яго калегі, Берка Берман працаваў не толькі ў студыі, а хадзіў здымаць дзіцячыя святы. Пацвярджэнне таму – фотаздымак з дзецьмі ў маскарадных касцюмах.

### За адзін партрэт – дзвесце злотых, за другі – восем год арышту

Па словах старшага навуковага супрацоўніка Вольгі Коласавай, лёс Беркі Бермана быў трагічны. У яго фотамайстэрні вісеў партрэт прэзідэнта Польшчы **Ігнацыя Масціцкага**, зроблены ў пачатку 1930-х гадоў, калі прэзідэнт наведваў Вілейку. Адзін партрэт фатограф адправіў у Варшаву і атрымаў за яго дзвесце злотых. А другі павесіў у сябе ў майстэрні. І атрымаў за яго восем год савецкіх лагераў.

Па ўспамінах сведак, пасля лагера фатограф вярнуўся ў Вілейку, пахадзіў каля былой майстэрні на сённяшняй вуліцы Савецкай і знік. Кажуць, з'ехаў у Ізраіль.

– Вядома, што Берка Берман вучыў ахоўнікаў з вілейскай турмы фатаграфаваць вязняў. І ці мог ён падумаць, што некалі сам трапіць сюды і ім жа навучаныя людзі будуць фатаграфаваць у турме яго, – распавядала наведнікам Вольга Коласава.

### Адкуль у Вілейцы назва "Перавалка"

Наведнікі спыняліся каля той часткі экспазіцыі, што прысвечаная прадпрыемству Аляксандра Любанскага. У пачатку стагоддзя пан пабудаваў спярша вілейскі касцёл, а ўжо потым дрэваапрацоўчае прадпрыемства. Сёння яно вядомае як завод буддэталі.

– А хто ведае, чаму адно з месцаў у Вілейцы называюць "Перавалка"? – запыталася ў наведнікаў Вольга Коласава.

"Перавалку" ведалі ўсе. Прыгадалі, што ў савецкі час там прадавалі самыя смачныя булкі. І што камандзіраваныя кіроўцы ў сталовай "Перавалка" заўсёды маглі нядорага і смачна паесці.

І ўсё ж назва "Перавалка" – не з савецкага часу, а куды больш ранняя. Некалькі стагоддзяў таму, кожную зіму, калі замярзала Вілія, тут была перавалачная база для розных тавараў, лесу. Усё звозілі сюды і складалі. А зімой, калі рака замярзала, назапашаныя тавары везлі па ёй на продаж аж да Гданьска.

У экспазіцыі – прылады працы, якімі карысталіся сплаўшчыкі лесу, – фіта і багор. Фітой вымяралі дыяметр бервяна, багром даставалі грузы з дна ракі.

### У пачастунак ад музея – чай з сухарыкамі

Для наведнікаў арганізатары прапанавалі гульню "Цені мінулага". Усе атрымалі аркушы з пытаннямі. Адказы можна было знайсці, уважліва слухаючы экскурсію і разглядаючы экспанаты. Фотаапараты, што рабілі на "Зеніце", дазвалялі нават пакруціць і разабраць. А як жа яшчэ адказаць на пытанне "Чым адзін з іх адрозніваецца ад астатніх?".

У студыі Беркі Бермана ўдзельнікам трэба было палічыць дзяцей на фотаздымках, а на прадмеце інтэр'ера 1920-30-х гадоў знайсці лічбу "60".

Пасля актыўных пошукаў наведнікам прапанавалі гарбату з траў у імправізаванай зямлянцы. Дапаўнялі пачастунак кавалкі цукру і сухары з белага і чорнага хлеба. Менавіта так, на думку супрацоўнікаў музея, чаявалі салдаты падчас Другой сусветнай.

Аксана ЯРАШОНАК.
Фота аўтара.

# У Валожыне абсталююць дзіцячую пляцоўку для дзяцей з інваліднасцю

ВАЛОЖЫН

**Пасля 20 чэрвеня ў Валожыне з'явіцца дзіцячая пляцоўка Baby*s Smile. Чым яна будзе адрознівацца ад астатніх?**



Фота primamedia.by

У канцы чэрвеня валожынскія дзеці змогуць гуляць на падобнай пляцоўцы.

Новая дзіцячая пляцоўка будзе інклюзіўная. Гэта значыць, на ёй змогуць бавіць час як звычайныя дзеці, так і дзеці з інваліднасцю. У горад ужо завезлі абсталяванне.

– Стварэнне такой пляцоўкі – ініцыятыва некалькіх супрацоўнікаў Валожынскага цэнтра тэрытарыяльнага абслугоўвання насельніцтва, – распавяла дырэктар установы **Галіна Рай**. – У Беларусі мы будзем не першымі, але ў рэгіёне такая пляцоўка з'явіцца ўпершыню. Абсталяванне для яе вырабілі ў Наваполацку.

Праект стартаваў 31 сакавіка. Яго рэалізуюць сумесна з Фондам развіцця мясцовых супольнасцяў і пры фінансавай падтрымцы Агенцтва ЗША па міжнародным развіцці.

Ініцыятыву актывістаў падтрымалі мясцовыя ўлады і жыхары горада. Жыхары навакольных двароў з вуліц Гагарына, Партызанскай і Горкага нават прапанавалі сваю дапамогу ва ўстаноўцы пляцоўкі.

– Людзей, якія жывуць побач, мы ўносім і будзем уносіць ва ўсе этапы праекта, уключаючы выяўленне праблем і іх вырашэнне, планаванне і, вядома, святкаванне агульнага поспеху – адкрыццё інклюзіўнай пляцоўкі ў канцы чэрвеня, – падзялілася Галіна Рай.

**На думку валожынскіх актывістаў, звычайныя гульнявыя комплексы, што ўстанаўліваюць у дварах жылых дамоў, не падыходзяць для дзяцей з інваліднасцю.**

Прыступкі, вышыня зон для дзіцячых гульняў, адсутнасць мяккага траўманебяспечнага пакрыцця часта перашкаджаюць паўнавартаснай гульні.

Сэнс інклюзіўнай пляцоўкі арганізатары бачаць у тым, што валожынскія дзеці з інваліднасцю і без яе змогуць тут разам гуляць. Гэта, на думку актывістаў, дапаможа пераадолець бар'ер у зносінах паміж дзецьмі і палепшыць адаптацыю дзяцей з інваліднасцю ў грамадстве. Таму праект мае свой слоган: "Месца, дзе ўсе гуляюць разам як роўныя".

Інклюзіўная дзіцячая пляцоўка Baby*s Smile будзе першай у Валожыне і стане тэрыторыяй запуску новых магчымасцяў для сацыялізацыі дзяцей з інваліднасцю, раскрыцця іх фізічных і творчых здольнасцяў.

Інклюзіўную пляцоўку абсталююць каля фізкультурна-аздараўленчага комплексу па вуліцы Партызанскай побач з вулічнымі трэнажорамі. Тут будзе траўманебяспечнае пакрыццё, гульнявое абсталяванне, распрацаванае спецыяльна для дзяцей з інваліднасцю. Паставяць арэлі, паравозік і пясочніцу.

Пасля 20 чэрвеня пляцоўку плануюць адкрыць для наведнікаў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Маладзечанка нарэшце атрымала тое, пра што марыла.
Фота Таццяны ГРУНТОВІЧ.

# Дабрачынны фонд здзейсніў мару Віялеты Банковіч – паляцець на верталёце

МАЛАДЗЕЧНА

18 мая дабрачынны фонд дапамогі дзецям "Белы бусел" разам з аэрадромам Ліпкі здзейсніў мару маладзечанкі Віялеты Банковіч у межах праекта "Рэдкія мары".

Гэты праект існуе, каб увасабляць сапраўдныя, шчырыя, на мяжы немагчымага мары асаблівых дзяцей. Напрыклад, прымераць карону каралевы прыгажосці, навучыцца танцаваць, калі дактары не дазваляюць нават хадзіць, сустрэцца з алімпійскім чэмпіёнам.

Арганізаваў палёт для Віялеты фонд "Белы бусел". Дапамог начальнік аэраклуба ДТСААФ **Мікалай Мачанскі**. А пілатаваў верталёт **Леанід Курсаў**.

Для таго, каб усё атрымалася прыгожа і захавалася ў гісторыі, працавалі візажыст, дызайнер адзення, відэаапаратар, фатографы, фларыст.

Дзяўчынка была ў захапленні, што яе запаветная мара здзейснілася. У знак падзякі яна падарыла дырэктару фонду дапамогі дзецям "Белы бусел" **Сяргею Усманаву** карціну, зробленую ў тэхніцы алмазнай вышыўкі. Мінскаму клубу ДТСААФ – малюнак бялюткага лайнера, які лунае ў аблоках.

У Віялеты рэдкае захворванне, з-за якога дзяўчынка мусіць перамяшчацца ў вазку. Гэта не спыняе дзяўчынку ў тым, каб рабіць тое, што цікава, і марыць.

**Паводле Любові СТРЫГІ, фонд "Белы бусел".**

# Абмеркавалі праблемы людзей з інваліднасцю

ВАЛОЖЫН

**У Валожыне 16 мая зладзілі сустрэчу ў межах кампаніі "Павестка 50".**

Мясцовыя актывісты, прадстаўнікі ўлады і сацыяльныя службы знайшлі і агучылі праблемы, з якімі сутыкаюцца людзі з інваліднасцю ў Валожыне, і пастараліся знайсці спосабы іх вырашэння, распавялі ў прэс-службе офіса па правах людзей з інваліднасцю.

– Гэта не першая падобная сустрэча, якую ладзяць у Валожыне, – расказаў **Міхаіл Мацкевіч**, намеснік дырэктара "Офіса па правах людзей з інваліднасцю" – арганізацыі, якая стала ініцыятарам сустрэчы. – Пачынаючы са снежня 2017 года ў Валожыне рэгулярна праходзяць так званыя сустрэчы стратэгічнага планавання, падчас якіх мы абмяркоўваем мясцовыя праблемы, шукаем спосабы іх вырашэння.

"Павестка 50" – гэта кампанія, накіраваная на рэалізацыю Канвенцыі аб правах людзей з інваліднасцю ў рэгіёнах. У сучаснай мове гэта называецца імплементацыяй.

Валожын увайшоў у лік пяці гарадоў Беларусі, дзе падпішуць спецыяльны стратэгічны дакумент, "павестку", дзякуючы якому стане магчымым ажыццявіць асноўныя палажэнні Канвенцыі ў рэгіёнах Беларусі.

Кампанію "Павестка 50" рэалізуюць пры фінансавай падтрымцы Еўрапейскага саюза.

На дадзеным этапе ў Валожыне вызначыліся з асноўнымі праблемамі, з якімі сутыкаюцца людзі з інваліднасцю. Сярод іх – недасканаласць безбар'ернага асяроддзя ў горадзе, недастатковая інфармаванасць насельніцтва аб правах людзей з інваліднасцю.

Мадэратарамі сустрэчы, што адбылася 16 мая, былі польскія эксперты **Малгажата Перацятковіч-Чыж** і **Пётр Тодыс**, якія займаюцца дапамогай людзям з інваліднасцю.

**Аддзел інфармацыі.**

# Вучылі і палітыцы, і прыгажосці

## У вілейскай школе-інтэрнаце дапамагалі дзецям абраць прафесію

ВІЛЕЙКА

19 мая дабрачынны фонд дапамогі дзецям "Белы бусел" наведаў спецыяльную агульнаадукацыйную школу-інтэрнат у межах праекта "Праграма сацыяльнай адаптацыі для дзяцей-сірот і дзяцей, што засталіся без апекі бацькоў". Праект падтрымлівае Міністэрства адукацыі.

На сустрэчу фонд запрашае прадстаўнікоў розных прафесій. Дзеці слухалі спікераў, задавалі пытанні, актыўна ўдзельнічалі ў майстар-класах. Такія заняткі неабходныя дзецям, асабліва тым, што засталіся без апекі бацькоў. Гэта спрыяе сацыялізацыі і дапамагае абраць жыццёвы шлях. Асабліва выхаванцы вілейскай школы-інтэрната былі рады смачнаму падарунку ад Мінскага халадакамбіната №2 – марожанаму.

Работнікі фонду ў межах праекта паказваюць выхаванцам жыццё за межамі ўстановы адукацыі, перспектывы. Гэта рыхтуе іх да дарослага жыцця пасля выпуску, развівае магчымасці.

З кожным годам усё больш дзяцей выходзіць з інтэрната, ахвотных атрымаць годную адукацыю і цікавую прафесію. Фонд у гэтым дапамагае.

Сярод гасцей былі студэнткі архітэктурнага факультэта **Анастасія Марозава і Арына Гарбуновіч**. Для музея школы-інтэрната перадалі макеты будынкаў і мастоў.

**Наталля Смалярка і Юлія Сцянько** паказалі майстар-клас па тэатральным майстэрстве. Разам з дзеткамі яны паставілі міні-спектакль "Дом, які пабудаваў Джэк". Мастак **Марыя Арцёмчук** прапанавала серыю ўрокаў па бісерапляценні. Кансультант па прыгажосці **Алена Юрынок** правяла майстар-клас для дзяўчынак па доглядзе за сабой. Дэпутат палаты прадстаўнікоў **Ігар Камароўскі** пазнаёміў выхаванцаў з асновамі паліталогіі.

**Паводле Любові СТРЫГІ, фонд "Белы бусел".**

ЧЕМПИОНАТ БЕЛАРУСИ
ВТОРАЯ ЛИГА
ФУТБОЛ
ФК Молодечно
ФК Спутник (г. Речица)
26 мая 17-00
суббота
Специальные гости - группа «Без паники» г. Минск
Начало в 16-30

ГОРОДСКОЙ СТАДИОН
Вход бесплатный!

## Прыходзьце на адкрыццё футбольнага сезона

МАЛАДЗЕЧНА

**Запрашаем 26 мая на гарадскі стадыён.**

У межах шостага тура ФК "Маладзечна" прыме ФК "Спадарожнік" з Рэчыцы. Стартавы свісток прагучыць у 17 гадзін.

У цырымоніі адкрыцця футбольнага сезона запланаваны ўдзел генеральнага сакратара Беларускай федэрацыі футбола **Юрыя Вяргейчыка**.

Перад пачаткам матча, у 16:30, а таксама ў перапынку выступяць спецыяльныя госці – музычны гурт "Без панікі" з Мінска.

Уваход і на гульню, і на канцэрт будзе бясплатны.

**Дзмітры РУХЛЕВІЧ.**

## "Маладзечна" прайграла, "Ашмяны" забілі восем галоў

АШМЯНЫ, МАЛАДЗЕЧНА

У пятым туры чэмпіянату Беларусі па футболе ў другой лізе "Маладзечна-ДЮСШ-4" 19 мая гуляла ў гасцях з "Асіповічамі". Пасля першага тайма маладзечанцы прайгравалі 0:2. У другім змаглі зраўняць лік: галы на 62-й і 68-й хвілінах забілі **Алег Страхановіч** і **Сяргей Крот**. Але за 15 хвілін да канца матча "Асіповічы" вырвалі перамогу – 3:2.

Назаўтра "Ашмяны-БДУФК" у гасцях забілі восем галоў "Горкам" і ніводнага не прапусцілі. Тры галы на рахунку **Дзмітрыя Купнеўскага**.

Ашмянская каманда займае пятае месца, маладзечанская – перадапошняе, чатырнаццатае.

Дзмітры Купнеўскі з "Ашмянаў-БДУФК" з дзевяццю галамі пакуль лепшы бамбардзір чэмпіянату.

**Аддзел інфармацыі.**

Турнірная табліца

| # | КЛУБ | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Рух | 5 | 5 | 0 | 0 | 22 - 3 | 15 |
| 2 | Спутнік | 5 | 4 | 0 | 1 | 18 - 4 | 12 |
| 3 | НФК Крумкачы | 5 | 4 | 0 | 1 | 14 - 5 | 12 |
| 4 | Узда | 4 | 3 | 1 | 0 | 15 - 4 | 10 |
| 5 | Ашмяны-БДУФК | 5 | 3 | 0 | 2 | 16 - 6 | 9 |
| 6 | Асіповічы | 5 | 2 | 2 | 1 | 9 - 7 | 8 |
| 7 | Івацэвічы | 5 | 2 | 2 | 1 | 6 - 4 | 8 |
| 8 | Вікторыя | 5 | 2 | 1 | 2 | 6 - 8 | 7 |
| 9 | Нёман-Агра | 4 | 2 | 0 | 2 | 7 - 12 | 6 |
| 10 | СМІаўтатранс | 5 | 1 | 1 | 3 | 2 - 16 | 4 |
| 11 | Клецк | 5 | 1 | 0 | 4 | 5 - 14 | 3 |
| 12 | Горкі | 4 | 1 | 0 | 3 | 7 - 17 | 3 |
| 13 | Энергетык-БДАТУ | 4 | 0 | 2 | 2 | 5 - 9 | 2 |
| 14 | Маладзечна-ДЗЮСШ№4 | 5 | 0 | 1 | 4 | 8 - 14 | 1 |
| 15 | БумПрам | 4 | 0 | 0 | 4 | 2 - 19 | 0 |

Табліца abff.by

# Аляксандра Ярмоліна стала чэмпіёнкай Еўропы па ўшу



Фота vk.com/clubgladiator.

МАЛАДЗЕЧНА

Закончыўся 17 чэмпіянат Еўропы па ўшу ў Маскве.

Зборная Беларусі правяла гэтыя спаборніцтвы ўдала. Атрымалі 18 медалёў рознай вартасці. Гімн Беларусі на чэмпіянаце гучаў чатыры разы.

Золата атрымалі маладзечанец **Вадзім Роліч** і юніёрка выхаванка байцоўскага клуба "Гладыятар" **Аляксандра Ярмоліна**.

У спаборніцтвах удзельнічалі каманды з 40 краін свету.

**Аддзел інфармацыі.**

## "Чысць" здабыла ачко ў дададзены час

СМАРГОНЬ

**"Смаргонь" прапусціла сёмы тур чэмпіянату Беларусі па футболе ў першай лізе. Але каманда згуляла таварыскі матч ва Уздзе з мясцовай камандай. Гульня скончылася выніковай нічыёй 4:4.**

"Чысць" 20 мая сустракалася ў гасцях з мікашэвіцкім "Гранітам". Матч завяршыўся ўнічыю 3:3. Хет-трыкам адзначыўся гулец "Чысці" **Аляксей Бялевіч**. Зраўняў ён лік ужо ў дададзены час. І гэта прытым, што "Чысць" з 57-й хвіліны гуляла ў меншасці.

Аляксей Бялевіч аказаўся аўтарам самага хуткага дубля ў гісторыі першай лігі. Для гэтага яму спатрэбілася 38 секундаў, паведамляе суполка ФК "Чысць".

"Смаргонь" з 11-ю ачкамі пасля шасці гульняў займае чацвертае месца, "Чысць" – апошняе, пятнаццатае. За шэсць гульняў каманда набрала тры ачкі.

**Аддзел інфармацыі.**




Фота з суполкі ФК "Чысць" Укантакце.

**Аляксей Бялевіч, аўтар самага хуткага дубля ў гісторыі першай лігі.**

## У рэгіянальны этап прайшлі каманды са Смаргоні

СМАРГОНЬ, АШМЯНЫ, АСТРАВЕЦ

У Смаргоні 17 мая праходзіў рэгіянальны паўфінальны этап "Кубак Coca-Cola. Уступай у гульню!".

Гульні сярод хлопчыкаў прынеслі такія вынікі: Смаргонь - Ашмяны 1:0, Ашмяны - Астравец 1:0, Смаргонь - Астравец 5:0.

У дзяўчынак каманда са Смаргоні разграміла прадстаўніц Ашмянаў 7:0.

У рэгіянальны фінальны этап прайшлі каманды хлопчыкаў і дзяўчынак са Смаргоні.

Пра гэта паведамляе дзіцяча-юнацкая спартыўная школа па футболе Смаргоні.

## "Вілія" стартуе ў чэмпіянаце вобласці

ВІЛЕЙКА

На гэтых выхадных стартуе чэмпіянат Мінскай вобласці па футболе. У першым туры ФК "Вілія" з Вілейкі 27 мая згуляе ў Салігорску з "Гарняком". Усяго ў чэмпіянаце прымаюць удзел 10 камандаў. Спаборніцтвы працягнуцца да канца верасня.

**Аддзел інфармацыі.**



# Крыжаванка ад "Рэгіянальнай газеты"



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Многія не вераць у тое, што гэта існуе. Кант лічыў, што з яе пачынаюцца любыя веды. Кажуць, што яна не падводзіць толькі тых, у каго ёсць.
2. Адсутнасць быцця, існавання, жыцця.
5. Выпадак, здарэнне (звычайна непрыемнага характару).
6. Ні ў які іншы час; ні пры якіх умовах, акалічнасцях.
8. Адна з амерыканскіх газет правяла эксперымент. Высвятлялі, хто пагодзіцца пайсці голым на працу за мільён долараў. Пагадзіліся 84% апытаных мужчын і 20% жанчын. Адна з апытаных жанчын сказала, што пагодзіцца, але толькі калі яе папярэдзяць за некалькі тыдняў. Што за гэты час яна хацела зрабіць?
9. Якім добра і лёгка карыстацца; зручны.
10. Гэты тытул атрымаў прынц Гары напярэдадні свайго вяселля з Меган Маркл 19 мая.
12. Сканцэнтраванасць думак, зроку, слыху.
17. Пісьмовае распараджэнне; дакумент на атрыманне, на выдачу.
18. З-за гэтага хімічнага працэсу разрэзаны яблык, калі яго пакрыць лімонным сокам, не цямнее.
19. Управа або ўлева.
21. Апавядальны твор вуснай народнай творчасці або літаратурны твор аб выдуманых падзеях, нярэдка з удзелам чарадзейнай, фантастычнай сілы.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

2. Глыбіня зямлі, месцы пад зямной паверхняй, а таксама тое, што там змяшчаецца.
3. Паміж студэнтам і доктарам.
4. Назва гэтай амерыканскай установы перакладаецца як "пяцівугольнік".
6. Парадкавы лік прадмета ў радзе яму падобных.
7. Папрок, незадавальненне.
11. Публічнае паведамленне на пэўную тэму.
12. Супрацоўніцтва.
13. Ларыса Геніюш: "Радасць як вецер, каханне як госць, Дасягнутасць … ўжо шчасцем не ёсць".
14. Жывы арганізм; чалавек або жывёліна.
15. Згода, права зрабіць, выканаць.
16. Гэты фрукт беларусы купляюць калючым. Хаця ў прыродзе гэтыя калючкі патрэбныя, каб абараніць ад жывёл няспелую мякаць. Калі плод даспявае, ён становіцца мяккім.
19. Ін'екцыя.
20. Палітычны цэнтр Беларусі ад 1918 года, пераназваны бальшавікамі ў 1938 годзе.

## Адказы на крыжаванку з №20

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Данос. 2. Донар. 3. Маркота. 4. Манахром. 6. Мазок. 7. Малпа. 9. Дакор. 11. Атрута. 15. Жалеза. 16. Далонь. 17. Ацёк. 20. Астанкі. 21. Шлак. 23. Танга. 25. Жывёла.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Даўно. 3. Манна. 4. Мароз. 5. Рэфлексы. 6. Магма. 8. Дар. 10. Аскет. 12. Журавель. 13. Юнга. 14. Жароўня. 16. Дзежка. 18. Арышт. 19. Чайнік. 22. Такт. 24. Маруда.

## Мінскі абласны драматычны тэатр. Рэпертуар на май-чэрвень



**ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ**

ПРЭМ'ЕРА. "**Час Сэканд Хэнд**" 16+ (дакументальная драма), *Святлана Алексіевіч*
30 мая – у 19:00

**ДЛЯ СЯМЕЙНАГА ПРАГЛЯДУ Ў ГОНАР ДНЯ АБАРОНЫ ДЗЯЦЕЙ**
"**Залатое сэрцайка**" 3+ (спектакль-гульня па матывах казак У.Арлова), *Святлана Навуменка*
1 чэрвеня – у 18:00

**У РАМКАХ НАЦЫЯНАЛЬНАГА ФЕСТЫВАЛЮ ПЕСНІ І ПАЭЗІІ "МАЛАДЗЕЧНА-2018", ПРЫСВЕЧАНЫ ГОДУ МАЛОЙ РАДЗІМЫ**
"**Вечар**" 12+ (лірычная драма), *А.Дудараў*
8 чэрвеня – у 18:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.
***Маладзечна, вул.Чкалава, 7.***
Кантактныя тэлефоны:
**52-30-66** – намеснік дырэктара,
**52-30-68** – галоўны адміністратар,
**52-30-65** – каса.
E-mail: modt@tut.by, www.theatre-modt.by

УНП 600066659

## ГАРАСКОП 25-31 МАЯ



**АВЕН.** Лёс будзе да вас добразычлівы і стане дапамагаць літаральна ва ўсім, калі, вядома, вы самі не будзеце сабе перашкаджаць і спрабаваць усімі сіламі пазбегнуць спрыяльных падзей у вашым жыцці.



**ЦЯЛЕЦ.** У вас ёсць запаветная мара, але яна надта глыбока ляжыць у вас унутры, трошкі выцягвайце яе наверх, сілкуйце сваёй энергіяй, уяўляйце, і яна абавязкова збудзецца.



**БЛІЗНЯТЫ.** Каб не адбываліся ў арганізме збоі, якія праяўляюцца як бяссонніца, прастудныя захворванні, не накоплівайце ў сабе эмацыйныя буры, навучыцеся сачыць за сваёй нервовай сістэмай.



**РАК.** Цяпер на вас могуць навальіцца дробныя непрыемнасці, якія ў сваёй сукупнасці могуць сур'ёзна вас знерваваць. Таму ўзбадзёрце сябе і пачынайце прыводзіць справы ў парадак, хоць будзе гэта і не проста. Прыйдзецца шмат папрацаваць, але гэта дазволіць вам зрабіць усё неабходнае. Адпачыць і цалкам спазнаць плён сваёй працы вы зможаце толькі да наступных выхадных, тады і настрой у вас падымецца, і справы пойдуць лепш.



**ЛЕЎ.** Моцна абвострацца інтуіцыя і адчувальнасць, а адсюль, як следства, і павышаная эмацыйнасць і ранімасць. Навакольныя не заўсёды змогуць правільна зразумець вашыя дзеянні і ўчынкі, а таксама рэакцыю на тое, што адбываецца. Стрымлівацць сябе варта толькі ў выпадку крайняй неабходнасці, ва ўсіх жа астатніх дазвольце быць сабой. У справах кіруйцеся інтуіцыяй, а логіку пакіньце на потым.



**ДЗЕВА.** Спыніце адносіны з людзьмі, якія перашкаджаюць вам вучыцца, жыць і працаваць. Набярыцеся сіл і цвёрда скажыце ім "не".



**ШАЛІ.** Верце ў сваю шчаслівую зорку, смела крочце наперад, усе вашы планы з бляскам ажыццяўяцца. Галоўны ваш вораг – сумненні. Пераадолееўшы іх, усё збудзецца.



**СКАРПІЁН.** Клопаты пачнуць вас стамляць. Таму першую палову тыдня лепш правесці сам-насам з самім сабой і звесці да мінімуму ўсе кантакты. У вас пачнуць зараджацца новыя ідэі, але так як у гэты момант яны не знаходзяць рэалізацыі, то вас можа наведаць дэпрэсія і расчараванне, перш за ўсё ў самім сабе. Такі эмацыйны стан будзе доўжыцца нядоўга. Бліжэй да канца тыдня вы зможаце ўзяць сябе ў рукі і пачаць актыўна займацца справамі, абдумваючы ўсе неабходныя дэталі і ўвасабляючы свае планы ў жыццё.



**СТРАЛЕЦ.** Часцей заставайцеся сам-насам, каб у цішыні і спакоі падумаць аб тым, чаго на самой справе вы хочаце. Знайдзіце "дарогу да сябе", і вы станеце самім сабой, займееце ўнутраны спакой.



**КАЗЯРОГ.** "Пасяліце" ў сваім сэрцы любоў, мяняйцеся самі да лепшага, і тады вы будзеце аказвацца ў патрэбным месцы ў патрэбны час.



**ВАДАЛЕЙ.** У вас адкрываюцца новыя прафесійныя перспектывы, але гэта прымушае яшчэ больш адказна адносіцца да сваіх абавязкаў. Ды і патрабаванні растуць не па днях, а па гадзінах. Вы справіцеся.



**РЫБЫ.** Вы будзеце літаральна свяціцца энергіяй і шчасцем, усё будзе атрымоўвацца, любыя пытанні вырашацца.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 8 | | | 7 | 4 | | | | |
| | 4 | | | 5 | | 6 | | 1 |
| | | 3 | | 6 | | | 4 | |
| 6 | | 9 | 1 | 7 | | | | |
| | | | | 3 | 5 | | | 9 |
| 3 | | | | 9 | 2 | | | 4 |
| | | 8 | | | | 4 | 1 | |
| 1 | | | | | | | 5 | 2 |
| 2 | | | | | | 8 | | 7 |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 8 | 1 | 6 | 7 | 4 | 9 | 2 | 3 | 5 |
| 9 | 4 | 2 | 3 | 5 | 8 | 6 | 7 | 1 |
| 5 | 7 | 3 | 2 | 6 | 1 | 9 | 4 | 8 |
| 6 | 8 | 9 | 1 | 7 | 4 | 5 | 2 | 3 |
| 4 | 2 | 1 | 6 | 3 | 5 | 7 | 8 | 9 |
| 3 | 5 | 7 | 8 | 9 | 2 | 1 | 6 | 4 |
| 7 | 9 | 8 | 5 | 2 | 3 | 4 | 1 | 6 |
| 1 | 6 | 4 | 9 | 8 | 7 | 3 | 5 | 2 |
| 2 | 3 | 5 | 4 | 1 | 6 | 8 | 9 | 7 |

Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015


## НАДВОР'Е

### 26 мая, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +14 / +23 | | +12 / +21 | | +10 / +22 | | +14 / +23 | |
| | 748 | ← 5 | 753 | ↖ 4 | 751 | ↓ 1 | 751 | ↓ 3 |
| Вільня | +13 / +22 | | +13 / +22 | | +13 / +21 | | +15 / +21 | |
| | 754 | ↙ 5 | 759 | ← 4 | 758 | ↙ 2 | 758 | ↙ 4 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветру м/с | |

Усход 4.51
Захад 21.27
Даўжыня дня 16.36

Усход 17.36
Захад 4.06
Квадра 2

| Горад | Тэмпература | Ціск | Вецер |
|---|---|---|---|
| Віцебск | +10 / +18 | 758 | ↘ 4 |
| Гродна | +16 / +23 | 761 | → 4 |
| Мінск | +12 / +21 | 753 | ↖ 4 |
| Магілёў | +12 / +19 | 760 | ← 4 |
| Брэст | +16 / +23 | 757 | → 5 |
| Гомель | +14 / +19 | 759 | → 1 |

## ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

**НАРАЧ**

Мінімальная тэмпература 0,3 °C у 1991 годзе
Максімальная тэмпература +29,1 °C у 2003 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 13,8 мм у 1984 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень

**Маладзечанка Валянціна Варанюк называе сваю сям'ю звычайнай. Але ці пагадзіцеся вы з гэтым, ведаючы, што аднойчы ўсе тры яе сыны сталі манахамі? І ці такая ўжо звычайная маці, якая знаходзіць у сабе моц прыняць гэта? Інтэрв'ю са спадарыняй Валянцінай чытайце ў наступным нумары "РГ".**


ОкнаХом ГАРАНТИЯ КАЧЕСТВА
8033 340-06-06
8029 340-06-06
УНП 691403311
ОКНА и ДВЕРИ
РАССРОЧКА до 20 месяцев!
до 30% скидки
ДВЕРИ межкомнатные металлические
СПЕШИТЕ!

Кинологический центр органов пограничной службы Республики Беларусь
оказывает юридическим и физическим лицам следующие виды услуг:
- **ВЕТЕРИНАРНЫЕ УСЛУГИ** (лабораторные исследования; рентген- и ультразвуковая диагностика; косметические операции, стерилизация животных; лечение, вакцинация, чепирование – услуги оказываются ежедневно, в том числе в выходные дни);
- **ДРЕССИРОВКА** собак служебных пород;
- **ВРЕМЕННОЕ СОДЕРЖАНИЕ** собак ("гостиница для собак")
- **ПРОДАЖА** собак и щенков служебных пород;
- **ОБУЧЕНИЕ** специалистов (для юридических лиц)

*231000, Гродненская область, г. Сморгонь, воинская часть 2044*
Т/ф +375 1592 **3-67-45,** по вет. услугам +375 1592 **3-67-44**,
GSM +375 29 **784-89-00.** УНП 500053039

ПРИНИМАЕМ МЕТАЛЛОЛОМ!
Молодечненский цех ОАО "**Белвторчермет**"
принимает от населения
**БЫТОВОЙ ЛОМ ЧЕРНЫХ МЕТАЛЛОВ**
по следующим ценам:
- металлолом стальной - 0,28 руб. за 1 кг
- металлолом чугунный - 0,31 руб. за 1 кг
- металлолом нерассортированный - 0,26 руб. за 1 кг

**Расчеты за металлолом производятся в день сдачи!**
Адрес цеха: ***г. Молодечно, ул. Железнодорожная, 57***
Телефоны: 8-0176-**77-09-04**, 8-029-**145-79-20** УНП 100071565


### «О реализации имущества ООО «Спецрезервстрой»

Организатор торгов ООО «Спецрезервстрой»
Продавец ООО «Спецрезервстрой» (УНП 690695128)
Форма проведения торгов: Шестые повторные торги в форме открытого аукциона
Дата и место проведения торгов: 15.06.2018 в 12.00 по адресу: г. Минск, ул. Лазо, д.16, офис 45.
Сведения о предмете торгов:
Лот № 1: Капитальное строение здание специализированное для обработки древесины и производства изделий из дерева, включая мебель (пилорама) инв. №630/С-1935, площадь здания – 442,5 кв.м; земельный участок кадастровый номер 623850100003002739 площадь 0,3287 га, земельный участок кадастровый номер 642000000003000591 площадь 0,1417 га.
Начальная цена:
Лот №1 –22 398 белорусских рублей 72 копеек с НДС;
Порядок проведения торгов:
Шаг аукциона - 5%.
Победителем торгов будет объявлено лицо, предложившее наибольшую цену.
Размер задатка для участия 10% от начальной цены лота перечисляется до подачи заявления на р/с продавца.
Заявки на участие принимаются организатором торгов по адресу: 220026, г. Минск, а/я 109, до 11-00 14.06.2018г.
Задаток перечисляется на счет продавца - ООО «Спецрезервстрой» (УНП 690695128)
р/с BY32OLMP 3012 1000 2509 4000 0933 в ОАО "Белгазпромбанк", OLMPBY2X.
Документы, необходимые для участия в торгах:
- заявка на участие в аукционе;
- платежный документ о перечислении задатка;
- документ, подтверждающий полномочия на участие в торгах.
Сроком поступления заявления является дата регистрации в журнале регистрации.
Контактные телефоны: **+375 44 528-08-04, +375 29 262-21-88**.

## ПРОСТА АНЕКДОТ

Псіхатэрапеўт пацыенту: "На ноч пакідайце свае праблемы за дзвярыма". Пацыент: "Вы думаеце, што жонка пагодзіцца начаваць у пад'ездзе?

***

Калі замяніць слова "праблема" на слова "прыгода", жыць становіцца куды цікавей.

***

Правяраю дзённік. Бачу ў сына двойку за паводзіны. Пытаюся:
– За што?
– За тое, што жыццю радаваўся, мама.

## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Дзе вы збіраецеся адпачываць гэтым летам?

**Таццяна Галоўская, кандытар:**
– Толькі ў Беларусі. На бліжэйшых азёрах, на прыродзе. Лічу, што ў нас хапае месцаў для адпачынку.

**Максім Данько, начальнік аддзела продажу:**
– А я ўжо адпачыў зімой. Ездзілі ў лютым з сям'ёй у Егіпет. Таму летам працаваць буду.

**Алеся Івашка, студэнтка:**
– Паеду на ўсе канікулы ў госці ў Вілейку да сяброў. Вельмі люблю гэты горад.

**Ягор Мышук, у дэкрэтным адпачынку:**
– Гэтым летам не едзем нікуды, бо гадую маленькага сына. А праз год-два абавязкова будзем ездзіць адпачываць.

**Караліна Гладкая, навучэнка:**
– З Маладзечна, дзе я вучуся ў каледжы, паеду ў родны горад Ашмяны. Там і буду адпачываць.

**Віталь Папоў, работнік культуры:**
– Некалькі год запар ездзілі на Чорнае мора. А сёлета, відаць, застанёмся дома: меншаму дзіцяці толькі два месяцы.

**Ганна Зенчык, навучэнка:**
– Буду адпачываць у вёсцы Дубрава на Маладзечаншчыне, у бабулі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**


Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№21 (1204) 25.05.2018. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА "РоллПрынт", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 177. Падпісана ў друк у 9.00 24.05.2018.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.


© "Рэгіянальная газета", 2018


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: reklama@rh.by, regionnews@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.